● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

1 жніўня 1996 г.
чацвер, № 192 (22995)




# ЗВЯЗДА




## СПРЭЧКІ СА СТЫХІЯЙ БЕССЭНСОЎНЫЯ.
### Таму ўчора ў сталіцы спыняліся тралейбусы

**Белгідрамет ліўневых дажджоў не абяцаў. Тым не менш, раніцай учарашняга дня жыхары сталіцы былі пастаўлены перад фактам: раз'юшаная стыхія не дазваляла рухацца наземнаму электратранспарту.**

Як паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення арганізацыі перавозак Мінгарвыканкома Уладзімір Сасноўскі, рух трамваяў і тралейбусаў амаль па ўсіх маршрутах быў перапынены на 10—15 хвілін у перыяд вельмі моцнага дажджу. Гэтая мера вымушаная: існуе вялікая пагроза заліць вадой рухавікі электратранспарту. Вадзіцелі тралейбусаў і трамваяў дзейнічалі як і належыць у такіх абставінах. Рух грамадскага транспарту быў поўнасцю адноўлены праз паўгадзіны, калі «вялікая» вада сышла.

На шчасце, стыхія не прынесла разбурэнняў. Самымі вялікімі непрыемнасцямі ўчарашняй раніцы ў мінчан былі спазненне на работу і мокры абутак.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

*XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ*

Atlanta 1996

## ТАБЛІЦА РАЗМЕРКАВАННЯ 170 КАМПЛЕКТАЎ УЗНАГАРОД ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ ДЗЁН СПАБОРНІЦТВАЎ

| № п/п | Назва краіны | Медалі | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Золата | Серабро | Бронза | Усяго |
| 1. | ЗША | 25 | 27 | 14 | 66 |
| 2. | Расія | 19 | 14 | 8 | 41 |
| 3. | Францыя | 13 | 6 | 13 | 32 |
| 4. | Кітай | 12 | 15 | 8 | 35 |
| 5. | Італія | 11 | 6 | 9 | 26 |
| 6. | Германія | 10 | 12 | 19 | 41 |
| 7. | Аўстралія | 7 | 9 | 17 | 33 |
| 8. | Польшча | 6 | 5 | 4 | 15 |
| 9. | Украіна | 5 | 2 | 5 | 12 |
| 10. | Румынія | 4 | 5 | 7 | 16 |
| 11. | Венгрыя | 4 | 3 | 7 | 14 |
| 12 | Грэцыя | 4 | 3 | 0 | 7 |
| 13. | Куба | 3 | 5 | 7 | 15 |
| 14. | Паўднёвая Карэя | 3 | 5 | 5 | 13 |
| 15. | Японія | 3 | 4 | 3 | 10 |
| 16. | Новая Зеландыя | 3 | 2 | 1 | 6 |
| 17. | Швейцарыя | 3 | 1 | 0 | 4 |
| 18. | Турцыя | 3 | 0 | 1 | 4 |
| 19. | Ірландыя | 3 | 0 | 1 | 4 |
| 20. | Канада | 2 | 7 | 6 | 15 |
| 21. | Бразілія | 2 | 2 | 4 | 8 |
| 2. | Галандыя | 2 | 3 | 8 | 13 |
| 23. | Казахстан | 2 | 3 | 1 | 6 |
| 24. | Бельгія | 2 | 2 | 2 | 6 |
| 25. | Іспанія | 2 | 1 | 2 | 5 |
| 26. | ПАР | 2 | 0 | 1 | 3 |
| 27. | Эфіопія | 2 | - | - | 2 |
| **28.** | **Беларусь** | **1** | **4** | **7** | **12** |
| 29. | Вялікабрытанія | 1 | 3 | 4 | 8 |
| 30. | Чэхія | 1 | 2 | 1 | 4 |
| 31. | Фінляндыя | 1 | 2 | 0 | 3 |
| 32. | КНДР | 1 | 1 | 1 | 3 |
| 33. | Югаславія | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 34. | Славакія | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 35. | Коста-Рыка | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 36. | Арменія | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 37. | Эквадор | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 38. | Ганконг | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 39. | Сірыя | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 40. | Данія | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 41. | Балгарыя | 0 | 4 | 4 | 8 |
| 42. | Швецыя | 0 | 2 | 0 | 2 |
| 43. | Ямайка | 0 | 2 | 0 | 2 |
| 44. | Кенія | 0 | 2 | 0 | 2 |
| 45. | Аўстрыя | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 46. | Узбекістан | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 47. | Славенія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 48. | Харватыя | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 49. | Намібія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 50. | Нарвегія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 51. | Аргенціна | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 52. | Малдавія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 53. | Грузія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 54. | Мексіка | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 55. | Трынідад і Табага | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 56. | Манголія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 57. | Ізраіль | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 58. | Нігерыя | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 59. | Мазамбік | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 60. | Уганда | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 61. | Марока | 0 | 0 | 1 | 1 |

## ПРЭЗІДЭНТ РОБІЦЬ ПАТРАБАВАННЕ БОЛЬШ ЖОРСТКІМ

**Як паведаміла служба інфармацыі Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь, 30 ліпеня пад старшынствам Прэзідэнта краіны А. Р. Лукашэнкі адбылося сумеснае пасяджэнне Савета бяспекі і калегіі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, на якім разгледжаны вынікі работы народнай гаспадаркі за першае паўгоддзе 1996 года і першачарговыя меры па стабілізацыі эканомікі краіны.**

Ва ўступным слове кіраўнік дзяржавы адзначыў, што «грамадства і дзяржава знаходзяцца на рубежным этапе свайго развіцця, што патрабуе аб'ектыўнай і прынцыповай ацэнкі», вызначыў кола праблем, па якіх прапанаваў прысутным выказацца гранічна сумленна і шчыра.

З дакладам аб парадку дня выступіў прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М. Чыгір, з судакладам — дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь В. Шэйман.

У абмеркаванні прынялі ўдзел Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шарэцкі, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі У. Ганчарык, шэраг членаў Савета бяспекі і калегіі Кабінета Міністраў.

На пасяджэнні адзначалася, што становішча ў эканоміцы краіны застаецца складаным і напружаным. Тэндэнцыя да стабілізацыі асобных макраэканамічных паказчыкаў, якая адзначана ўрадам, з'яўляецца няўстойлівай, не прыняла характару незваротнасці і патрабуе дадатковых намаганняў і неадкладных мераў па яе замацаванню. Некаторы рост аб'ёмаў вытворчасці прамысловай прадукцыі не забяспечваецца эфектыўнай работай па яе рэалізацыі. Пад рэальнай пагрозай знаходзіцца выкананне дзяржаўнага бюджэту, адзначаецца рост адмоўнага сальда гандлёвага балансу і знешняй запазычанасці. Нездавальняючымі заставаліся ў першым паўгоддзі 1996 года тэмпы рэфарміравання эканомікі, рэструктурызацыі галін народнай гаспадаркі і прадпрыемстваў.

Асабліва вострa ўзнікшая сітуацыя была ацэнена дзяржсакратаром Савета бяспекі В. Шэйманам. Ён падкрэсліў, што «зацяжны характар крызіснага развіцця рэспублікі набыў статус фактару, што стварае рэальную пагрозу не толькі эканамічнай, але і ў цэлым бяспецы краіны. У грамадстве працягваецца накапленне выбухованебяспечнай крытычнай масы сацыяльнага напружання, якое выклікана вялікай запазычанасцю па заработнай плаце, прагрэсіруючым беспрацоўем, зніжэннем рэальных даходаў і жыццёвага ўзроўню насельніцтва».

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падверг востраай крытыцы дзейнасць Кабінета Міністраў, ацаніўшы яе ў цэлым як нездавальняючую. Ён падкрэсліў, што кіраўніцтва Кабінета Міністраў не змагло арганізаваць і забяспечыць эфектыўную работу міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання ў складаных эканамічных умовах. Урад не праявіў належнай ініцыятывы і настойлівасці ў ажыццяўленні эканамічных рэформаў, накіраваных на стабілізацыю і структурныя пераўтварэнні ў эканоміцы, не выпрацаваў эфектыўнага механізма выканання дзяржаўнага бюджэту. Па-ранейшаму слабым звяном у дзейнасці ўрада, міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання застаецца арганізацыя выканання і кантролю ўказаў, распараджэнняў і даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама ўласных рашэнняў, гаворыцца ў паведамленні прэс-службы Савета бяспекі.

У ходзе абмеркавання эфектыўнасці дзейнасці Кабінета Міністраў падалі прашэнне аб адстаўцы намеснікі прэм'ер-міністра В. Даўгалёў і Л. Сініцын, а таксама міністр эканомікі Г. Бадзей. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прыняў адстаўку Л. Сініцына і Г. Бадзея.

У прынятай пастанове Савета бяспекі і калегіі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь намечаны першачарговыя меры па стабілізацыі эканомікі краіны. Галоўнай задачай дзейнасці Кабінета Міністраў, міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання вызначана распрацоўка і аператыўная рэалізацыя мераў, накіраваных на паглыбленне і інтэнсіфікацыю рэфарміравання эканомікі, станаўлення яе рыначных асноў, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў, эканамічнай мэтазгоднасці і сацыяльных прыярытэтаў.

Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь Міхаілу Чыгіру, кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаілу Мясніковічу і дзяржаўнаму сакратару Савета бяспекі Віктару Шэйману даручана арганізаваць абмеркаванне прадстаўленых варыянтаў праекта праграмы першачарговых мераў па аздараўленню эканомікі ў другім паўгоддзі 1996 года і канцэптуальныя падыходы да сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1997 і наступныя гады. Прапанавана прыняць удзел у гэтай рабоце прадстаўнікам Вярхоўнага Савета, Нацыянальнага банка, прафесіянальных саюзаў. Дапрацаваны праект праграмы не пазней чым 15 жніўня павінен быць прадстаўлены на зацвярджэнне кіраўніку дзяржавы.

Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь дадзена даручэнне дзяржсакратару Савета бяспекі, старшыні Камітэта дзяржбяспекі, міністру ўнутраных спраў, Генеральнаму пракурору і старшыні Вярхоўнага суда падрыхтаваць праект указа аб мерах па стабілізацыі грамадска-палітычнай сітуацыі ў дзяржаве і спыненню процiпраўных дзеянняў антыдзяржаўнага, антыпрэзідэнцкага характару.

Дзяржаўнаму сакратару Савета бяспекі, Службе кантролю Прэзідэнта, Міністэрству ўнутраных спраў, Камітэту дзяржаўнай бяспекі, пракуратуры даручана забяспечыць аператыўнае завяршэнне спраў па карупцыі, растратах і крадзяжах дзяржаўнай маёмасці, матэрыяльных сродкаў, што знаходзяцца ў іх вытворчасці, і перадаць іх у суды. Кіраўнік дзяржавы даручыў разабрацца з фактамі злоўжывання службовым становішчам, крадзяжамі, якія былі выяўлены ў ходзе праверкі дзяржрэзерву.

У мэтах праверкі і кантролю за выкананнем указаў, распараджэнняў і даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Кабінетам Міністраў, Адміністрацыяй Прэзідэнта, Службай кантролю Прэзідэнта, Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта, міністэрствамі, іншымі цэнтральнымі органамі кіравання, службовымі асобамі распараджэннем Прэзідэнта ствараецца спецыяльная камісія пад старшынствам дзяржсакратара Савета бяспекі.

**БЕЛТА.**

## ЛЮДЗІ ПІШУЦЬ ПРЭЗІДЭНТУ АБ ТЫМ, ШТО ІХ ХВАЛЮЕ

**У Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у першай палове года паступіла 15.706 прапаноў, заяў і скаргаў грамадзян.**

Карэспандэнцыя кіраўніка дзяржавы не толькі вялікая, але і разнастайная. Пісьмы і тэлеграмы ідуць на яго адрас ад грамадзян Беларусі, Расіі, Украіны, Казахстана, Малдовы, Абхазіі, іншых рэгіёнаў былога СССР. Асабліва вялікі быў іх паток пасля падпісання Дагавора аб утварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі. Працоўныя калектывы, грамадскія арганізацыі, жыхары гарадоў і вёсак падтрымалі і адобрылі ініцыятывы Аляксандра Лукашэнкі па інтэграцыі Беларусі і Расіі, пажадалі поспехаў у супрацоўніцтве з усімі дзяржавамі СНД.

Так, сям'я Мураўёвых з Жодзіна піша: «Нельга перадаць у тэлеграме пачуццё глыбокай удзячнасці і падзякі за Вашу працу па аб'яднанню двух брацкіх народаў. Дзякуй Вам, дарагі наш Прэзідэнт! Няхай беражэ Вас Бог!» Сям'я Скляр з Мурманска дзякуе Аляксандру Лукашэнку за тое, што ён вярнуў Радзіму беларускім жыхарам Поўначы, і жадае яму сіл і здароўя ва ўсіх добрых пачынаннях. Віншавальныя пісьмы і тэлеграмы прыслалі таксама І. Гусалаў з Уладзікаўказа, Б. Лексій з Санкт-Пецярбурга, П. Лысенка з Краснадара, сям'я Бажэнавых з Масквы, калектыў рабочых з Кішынёва...

Ёсць пісьмы з асуджэннем дзеянняў лідэраў Беларускага народнага фронту, іншых палітыкаў за спробу захопу тэлецэнтра 24 сакавіка 1996 года, а таксама за арганізацыю несанкцыянiраваных мітынгаў, накіраваных супраць узмацнення інтэграцыйных працэсаў паміж народамі Беларусі і Расіі. Паступілі прапановы аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці арганізатараў і ўдзельнікаў масавых беспарадкаў у Мінску 26 красавіка 1996 года. У прыватнасці, лідэраў Беларускага народнага фронту, некаторых дэпутатаў Вярхоўнага Савета рэспублікі, членаў украінскай арганізацыі УНА-УНСО. Такія патрабаванні выклалі ветэранскія арганізацыі Гомельскай і Магілёўскай абласцей, грамадзяне Беларусі Л. Бярновіч, В. Жукоўская, В. Камар, Г. Рылько, сям'я Целянцюк, а таксама жыхары Расіі і Украіны А. Дзегцяроў, Э. Новікава, С. Саломка.

Аляксандру Лукашэнку часта пішуць і па асабістых пытаннях. Большасць просьбаў (4577, або 29 працэнтаў) датычыць жыллёвых праблем: рамонту кватэр, цепла- і водазабеспячэння, паляпшэння жыллёвых умоў. Мяркуючы па пошце, жыхары Беларусі з адабрэннем успрынялі Указ Прэзідэнта «Аб некаторых мерах па развіццю жыллёвага будаўніцтва», накіраваны на падтрымку маламаёмных слаёў насельніцтва праз адраснае субсідзіраванне будаўніцтва жылых памяшканняў і льготнае крэдытаванне будаўніцтва дамоў жыллёва-будаўнічых кааператываў і калектываў індывідуальных забудоўшчыкаў.

Разам з тым, на думку многіх аўтараў пісьмаў (мінчан Л. Рудкоўскай, Д. Субач і Л. Танковай, Т. Рачак з Гомеля, В. Проніна з Гродна, К. Аспішчава са Слуцка), субсідзіраванне жыллёвага будаўніцтва не забяспечвае патрэбнасці значнай колькасці тых, хто мае ў ім патрэбу. Грамадзяне, мінімальны спажывецкі бюджэт якіх дае ім права на атрыманне бязвыплатнай субсідыі, не могуць гэта выкарыстаць, паколькі не ў стане пакрыць за кошт уласных сродкаў розніцу паміж коштам кватэры і субсідыяй. Яны просяць выдзеліць ім дадаткова льготныя крэдыты, хоць Часовае палажэнне аб прадастаўленні грамадзянам аднаразовых бязвыплатных пазык на будаўніцтва або куплю жылых памяшканняў, зацверджанае пастановай Кабінета Міністраў Беларусі, не прадугледжвае прадастаўленне льготных крэдытаў разам з субсідыямі.

Людзі вымушаны прасіць і аб выдзяленні льготных крэдытаў для куплі кватэр у ведамасных дамах, паколькі складанае фінансавае становішча шэрага прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў не дае магчымасці прадастаўляць бясплатна жыллё сваім работнікам. З такімі заявамі звярнуліся забудоўшчыкі жылога дома па вул. Някрасава ў Мінску, які будуе вытворчае аб'яднанне «Мінскі

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## КУРЛОВІЧ ЗАСТАЕЦЦА БЕЗ МЕДАЛЯ, А БЕЛАРУСКАЯ КАМАНДА АМАЛЬ БЕЗ НАДЗЕІ НА ПОСПЕХ

Гульні ў Атланце набліжаюцца да завяршэння. Праз чатыры дні агонь на алімпійскім стадыёне будзе патушаны і амерыканцы перададуць эстафету Аўстраліі, дзе ў 2000 годзе ў Мельбурне пройдзе чарговая Алімпіяда.

На жаль, прыходзіцца толькі развесці рукамі ад выступленняў беларускіх спартсменаў. З трэскам правалілася чарговая наша алімпійская надзея звязаная з двухразовым чэмпіёнам Алімпійскіх гульняў, цяжкаатлетам Аляксандрам Курловічам. Як відаць, спартсмен з Гродна проста аказаўся не гатовым змагацца ні з расіянінам Андрэем Чамеркіным, ні з немцам Роні Велерам У канчатковым выніку ў Курловіча толькі 7-е месца.

А вось Леанід Тараненка наогул не выступаў, спаслаўшыся на траўму спіны.

Наогул, для нашай каманды ў Атланце зараз наступіла нейкая чорная паласа. З далейшай барацьбы на шляху да паўфіналу выбыў тэнісіст-настольнік Уладзімір Самсонаў. Напаткала няўдача і апошняга беларускага баксёра Сяргея Дычкова (91 кг).

# ЛЮДЗІ ПІШУЦЬ ПРЭЗІДЭНТУ АБ ТЫМ, ШТО ІХ ХВАЛЮЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

трактарны завод», 68-кватэрнага дома ў сталічным мікрараёне «Масюкоўшчына-1», што належыць адкрытаму акцыянернаму таварыству «Мінскі завод ацяпляльнага абсталявання». Гэтыя просьбы разглядаліся кіраўніком дзяржавы, кіраўніцтвам Адміністрацыі Прэзідэнта, мясцовымі выканаўчымі камітэтамі. У неабходных выпадках людзям была аказана дапамога.

Пасля выхаду Указа Прэзідэнта «Аб кампенсацыі ўкладаў насельніцтва» значна ўзрасла колькасць пісьмаў аб пакрыцці грашовых укладаў, якія былі страчаны ўкладчыкамі ашчаднага банка ў выніку інфляцыі. Жыхары рэспублікі з удзячнасцю і надзеяй успрынялі першыя крокі дзяржавы па кампенсацыі ўкладаў, але выказваюць свае заўвагі, уносяць канкрэтныя прапановы аб парадку пакрыцця страт ад абясцэньвання грашовых зберажэнняў. Так, ветэраны вайны, якія не мелі ўласнага рахунку ў ашчадным банку і захоўвалі свае зберажэнні на рахунках жонак, просяць вырашыць пытанне і аб кампенсацыі гэтых укладаў. Адзінокія пенсіянеры, інваліды, шматдзетныя сем'і (пенсіянерка А. Патапенка з Глуска — апякун дзвюх унучак-сірот, 83-гадовая ўдава загінуўшага ў час вайны салдата Е. Волкава з вёскі Ліпнякі Лоеўскага раёна, муж і жонка Авакумавы з Мінска, інваліды, якія з'яўляюцца апекунамі дачкі-інваліда I групы) лічаць, што яны, як і ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, таксама маюць права на першачарговую кампенсацыю ўкладаў.

На думку пажылых людзей, было б справядліва праіндэксаваць уклады ўсім грамадзянам краіны ва ўзросце старэй за 65 гадоў. Аб гэтым пішуць пенсіянерка А. Саковіч з Капыля, удава інваліда Вялікай Айчыннай вайны А. Максіменка з Магілёва, адзінокая пенсіянерка Л. Хацімко з пасёлка Ружаны, Г. Лейчанка з Віцебска, П. Мядзведзеў з Гомеля, А. Каржэўская з Мінска. Інваліды, якія пакутуюць ад цяжкіх формаў розных захворванняў, прапануюць кампенсаваць накапленні да 3 тысяч рублёў усім пажылым людзям і па завяшчанню выдаваць сваякам на пахаванне ў выпадку смерці ўкладчыка.

Заявы і прапановы аб кампенсацыі грашовых укладаў накіраваны для разгляду Акцыянернаму ашчаднаму банку «Беларусбанк».

Звыш 200 чалавек звярнуліся ў Адміністрацыю Прэзідэнта па пытаннях сацыяльнай абароны і пенсіённага забеспячэння. Адны просяць аказаць матэрыяльную дапамогу, другія — павялічыць памер пенсіі, трэція выказваюць прэтэнзіі да работы органаў сацыяльнай абароны. Нямала пісьмаў і аб затрымках з выплатай заработнай платы, дзяржаўных дапамог на дзяцей. У выніку мераў, прынятых Прэзідэнтам і Кабінетам Міністраў, запазычанасць па сацыяльных выплатах і заработнай плаце скарацілася. І, як вынік, скаргаў па гэтых пытаннях у ліпені практычна не было.

Пасля падпісання Дагавора аб утварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі ў прэзідэнцкай пошце значна вырасла колькасць просьбаў аб прадастаўленні грамадзянства Рэспублікі Беларусь або выхадзе з гэтага грамадзянства. Аўтары пісьмаў ставяць пытанне аб спрашчэнні парадку набыцця грамадзянства пры перасяленні ў адну ці другую краіну.

Ёсць сярод зваротаў і незвычайныя пісьмы. Так, грамадзяне былой Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан (каля дзвюх тысяч чалавек), якія больш чым дзесяць гадоў знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі і не маюць магчымасці вярнуцца на радзіму па палітычных матывах, просяць прадаставіць ім статус бежанцаў або палітычнае прыстанішча.

Каб лепш ведаць працэсы, што адбываюцца ў грамадстве, у рэзідэнцыі Прэзідэнта арганізаваны асабісты прыём грамадзян. Хадакоў прымаў сам Аляксандр Лукашэнка, яго памочнікі, кіраўніцтва Адміністрацыі Прэзідэнта, апарату Савета бяспекі рэспублікі, Службы кантролю Прэзідэнта і Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Усяго на прыёме ў рэзідэнцыі пабывалі 2463 чалавекі.

Адміністрацыя Прэзідэнта краіны вядзе пастаянны кантроль за своечасовым і якасным разглядам прапаноў, заяў і скаргаў грамадзян, рэгулярна праводзіць аналіз праблем, што ўзнімаюцца імі ў пісьмах.

**БЕЛТА.**

# ПЕРШЫЯ ДНІ ЖНІЎНЯ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПРАВЯДЗЕ НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ

**Сваю чарговую рабочую паездку на Гомельшчыну Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка зробіць 1-2 жніўня. Цяпер ён пабывае ў месцах адсялення жыхароў з раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, а таксама наведае горад Мазыр.**

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, у пачатку паездкі кіраўнік дзяржавы пабывае ў Хойніцкім раёне, дзе ён сустрэнецца з работнікамі зубрагадавальніка, наведае эксперыментальны сад у вёсцы Бабчын, аб'екты навуковага і сацыяльнага прызначэння. Затым Аляксандр Лукашэнка азнаёміцца з работай Мазырскага солевыварнога камбіната, сустрэнецца з работнікамі гэтага прадпрыемства.

На другі дзень сваёй рабочай паездкі Прэзідэнт наведае Жыткавіцкі раён. Ён пабывае ў вёсках Азяраны, Перароў, Хлупін, Хлупінская Буда, у Прыпяцкім дзяржаўным ландшафтным гідралагічным запаведніку, наведае шэраг сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, азнаёміцца з ходам уборкі ўраджаю, сустрэнецца з мясцовымі жыхарамі.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

# ДЗЕНЬ МАЦІ — 14 КАСТРЫЧНІКА

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Беларусі ўстаноўлены Дзень маці, які не з'яўляецца выхадным днём. Ён будзе кожны год адзначацца 14 кастрычніка.

**БЕЛТА.**

# СЯМЁН ШАРЭЦКІ І ЯГОР СТРОЕЎ СУСТРЭЛІСЯ Ў АРЛЕ

Праблемы ўзаемаадносінаў і супрацоўніцтва вышэйшых заканадаўчых органаў краін СНД абмеркаваны ў час рабочай сустрэчы Старшыні Парламенцкага Сходу Супольніцтва Беларусі і Расіі Сямёна Шарэцкага і Старшыні Савета Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц СНД Ягора Строева, якая адбылася ў Арле. Кіраўнікі міжпарламенцкіх органаў выказалі занепакоенасць тым, што працэс стварэння рабочых органаў саюза чатырох краін — Беларусі, Казахстана, Кыргызстана і Расіі — праходзіць марудна. Было адзначана, што з-за таго, што міжпарламенцкая сустрэча ў Санкт-Пецярбургу не адбылася, не было магчымасці напоўніць канкрэтным зместам прадэклараваныя намеры кіраўнікоў чатырох краін.

Як паведамілі ў прэс-службе Вярхоўнага Савета, у ходзе сустрэчы Ягор Строеў праінфармаваў Сямёна Шарэцкага аб сітуацыі ў Расіі, якая склалася пасля прэзідэнцкіх выбараў. У сваю чаргу Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі расказаў аб падзеях, што адбываюцца ў нашай рэспубліцы.

Рабочая сустрэча ў Арле, на думку яе ўдзельнікаў, прайшла ў абстаноўцы ўзаемаразумення і павагі. «Мне прыемна працаваць з чалавекам, які не проста прымае ўзважаныя рашэнні, але і мае жыццёвую мудрасць параіцца перад такім крокам», — сказаў Старшыня Савета Федэрацыі Федэральнага Сходу Расіі.

Сямён Шарэцкі запрасіў Ягора Строева прыехаць першага верасня ў яго родную вёску Лаўрышава на адкрыццё помніка асветніку Елісею Лаўрышаўскаму. Кіраўнік Савета Федэрацыі Расіі прыняў гэту прапанову.

**БЕЛТА.**

# ПАДАТКІ НА ДАХОДЫ ІНШАЗЕМЦАЎ

Кабінет Міністраў рэспублікі ў мэтах выканання Закона ад 19 красавіка 1996 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатках на даходы і прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый» спецыяльнай пастановай зацвердзіў пералік даходаў замежных юрыдычных асоб, якія падлягаюць падаткаабкладанню ў якасці «іншых даходаў». Да іх адносяцца даходы ад продажу на нашай тэрыторыі завозімых з-за межаў краіны тавараў на ўмовах дагавораў гандлёвага пасрэдніцтва, камісіі (кансігнацыі), ад адчужэння акцый, аблігацый і іншых каштоўных папер, а таксама ад продажу валют. Спаганяецца падатак і за аказанне інфармацыйных, кіраўніцкіх, пасрэдніцкіх, аўдытарскіх паслуг, а таксама за навучанне і кансультацыі, за паслугі па ўстаноўцы, эксплуатацыі ліній, механізмаў і прыстасаванняў.

Гэтым жа дакументам для замежных юрыдычных асоб вызначаны даходы ад відаў работ, што не падлягаюць падаткаабкладанню. Гэта даходы, атрыманыя за паслугі па ўстаноўцы, мантажу, за кансультацыі, якія з'яўляюцца неад'емнай умовай знешнегандлёвага дагавора па пастаўках абсталявання, а таксама пры суправаджэнні і ахове грузаў, ад штрафаў і пені за парушэнне дагаворных і даўгавых абавязацельстваў, ад адчужэння нерухомай маёмасці, якая знаходзіцца на нашай тэрыторыі, ад правядзення канцэртна-відовішчных мерапрыемстваў і за паслугі ў галіне страхавання.

**БЕЛТА.**

# ПАДАТАК НА ПРЫБЫТАК АДДАЙ ДА 22-га

Пастановай Кабінета Міністраў зацверджаны парадак і тэрміны выплаты падаткаў на даходы і прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый.

Згодна з дакументам, падатак на прыбытак павінен уносіцца штомесяц не пазней 22 чысла кожнага месяца, наступнага за справаздачным. Разлікі падатку на прыбытак за папярэдні месяц нарастаючым падрахункам з пачатку года, а таксама разлікі, неабходныя для прадастаўлення льгот па падатку, трэба прадстаўляць у падатковую інспекцыю па месцы знаходжання плацельшчыка не пазней 20 числа.

Што датычыць падатку на даходы, то ён уносіцца ў бюджэт не пазней дня, наступнага за днём налічэння дывідэндаў і прыраўнаваных да іх даходаў. Разлікі гэтых падаткаў нарастаючым падрахункам з пачатку года павінны быць прадстаўлены ў падатковыя службы ў пяцідзённы тэрмін з дня іх налічэння.

Гэты парадак, у адпаведнасці з зацверджаным дакументам, не пашыраецца на парадак і тэрміны выплаты падаткаў на прыбытак і даходы замежнымі юрыдычнымі асобамі.

**БЕЛТА.**

***КРЫМІНАЛ***

# КРОЎ ЗА ХЛЕБ

Дзёрзкі разбойны напад на жыхароў Жытомірскай вобласці, якія ехалі на аўтамабілі «КамАЗ», адбыўся апоўдні 30 ліпеня ў раёне вёскі Сітня Калінкавіцкага раёна. Трое невядомых на «Жыгулях» спынілі грузавую машыну і завалодалі ёю, затым нанеслі вадзіцелю і яго напарніку нажавыя раненні.

Акрываўленыя целы злачынцы адцягнулі далей ад дарогі. Толькі праз некалькі гадзін адзін з пацярпеўшых, які атрымаў шэсць нажавых раненняў, змог дабрацца да трасы і быў дастаўлены ў прыёмны пакой Калінкавіцкай раённай бальніцы. Аператыўная група работнікаў міліцыі, якая выехала на месца, знайшла труп другога вадзіцеля.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, пацярпеўшыя займаліся камерцыйнай дзейнасцю. На гэты раз яны перавозілі 25 тон мукі з Кіева ў Санкт-Пецярбург. «КамАЗ», захоплены злачынцамі, работнікі праваахоўных органаў знайшлі ў раёне Мазыра, але без грузу. Пошукі злачынцаў працягваюцца.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

# «ПАДАРУНАК» АД НЕЛЮБІМАГА. ІМ МОЖА СТАЦЬ І БОМБА

Непрыемныя хвіліны прыйшлося перажыць пацыентам і абслуговаму персаналу псіхбальніцы Гродзенскага раёна. Натуральна, многім з іх магло здацца, што яны сталі ахвярамі чарговага тэрарыста: на тэрыторыі бальніцы прагучаў выбух. Ёсць і пацярпеўшыя.

Як удалося высветліць у прэс-цэнтры МВД, 25 ліпеня аднаму з работнікаў псіхбальніцы незнаёмым быў перададзены пакет, які першы павінен быў перадаць адной з работніц. Раніцай, калі жанчына разгортвала падарунак, адбыўся выбух. Былі шпіталізаваны чатыры жанчыны з апёкамі шыі і рук I і II ступені.

На сённяшні дзень падазраваемы затрыманы. Як аказалася, «віноўніцай» зробленага стала сама жанчына, якая ніяк не адрэагавала на пачуцці закаханага.

**Ігар РЫГОРАЎ.**

***ЖНІВО-96***

# СЯРОД АБЛАСЦЕЙ БОЛЬШ ЗА ЎСІХ ЗБОЖЖА НАМАЛАЦІЛА ГОМЕЛЬСКАЯ.

## Гродзенская займае пакуль адно з апошніх месцаў. З-за дажджоў

Жніво шырокай хадой крочыць па тэрыторыі нашай рэспублікі — да ўборкі прыступілі ўсе вобласці. Лідзіруе пакуль Гомельшчына, дзе збожжа сабрана з 61,2 тысячы гектараў (16 працэнтаў ад пасеянага), сабрана ж тут амаль палова ад цяперашніх рэспубліканскіх лічбаў сёлетняга ўраджаю — 131,7 тысячы тон (ураджайнасць, праўда, адна з самых нізкіх — 21,6 цэнтнера з гектара). На Брэстчыне сабралі ўраджай з 31 тысячы гектараў (8,5 працэнта), намалацілі ж 67,7 тысячы тон з ураджайнасцю 25,8 цэнтнера з гектара. Далей сярод цяперашніх лідэраў жніва ідзе Магілёўская вобласць — з 19,8 тысячы гектараў убранай плошчы (4,6 працэнта), 44,6 тысячы тон збожжа і ўраджайнасцю 23,7 цэнтнера. Гаспадаркі Міншчыны ўжо сабралі збожжа з 12,2 тысячы гектараў (2,3 працэнта), намалацілі — 28,7 тысячы тон з ураджайнасцю 25 цэнтнераў.

Гродзенская вобласць пакуль займае перадапошні радок своеасаблівага рэйтынгу сёлетняга жніва, сабраўшы збожжа з 2,1 тысячы гектараў. Аднак тут намалацілі вельмі няблага — 5,5 тысячы тон з самай высокай па рэспубліцы ўраджайнасцю — 30,5 цэнтнера з гектара. Распачаць жніво з належным размахам гаспадаркам вобласці перашкаджаюць дажджы. У паўночнай частцы рэспублікі, на Віцебшчыне, таксама сабралі ўраджай з невялікай плошчы — 2,2 тысячы гектараў (паўпрацэнта ад пасеянага), намалаціўшы 5 тысяч тон збожжа з ураджайнасцю 23,8 цэнтнера з гектара.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

***ПОГЛЯД***

# З. ПАЗНЯК І С. НАВУМЧЫК ПАПРАСІЛІ ПАЛІТЫЧНАГА ПРЫСТАНІШЧА Ў ЗША

**Лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазняк і прэс-сакратар БНФ Сяргей Навумчык, якія пасля падзей у сакавіку бягучага года пакінулі Беларусь і доўгі час знаходзіліся ў Варшаве, папрасілі палітычнага прыстанішча ва ўрада Злучаных Штатаў Амерыкі. Аб гэтым паведамілі сусветныя сродкі масавай інфармацыі. Прадстаўнікі апазіцыі яшчэ 30 ліпеня з гэтай нагоды далі ў Вашынгтоне прэс-канферэнцыю.**

Такі ход падзей быў у нейкім сэнсе нечаканым для самога Беларускага народнага фронту. Учора ў размове з карэспандэнтам «Звязды» намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка адзначыў, што ў апошнім факсе, які даслалі З. Пазняк і С. Навумчык, утрымліваліся толькі цьмяныя намёкі на магчымасць просьбы палітычнага прыстанішча. Юры Хадыка лічыць, што, не маючы магчымасці вярнуцца на радзіму і адначасова не маючы сродкаў для існавання за мяжой, яго калегі вырашылі такім чынам атрымаць нейкі афіцыйны статус, паколькі пры ўмове задавальнення сваёй просьбы, яны атрымаюць як салідную матэрыяльную падтрымку так і ўзаконяць сваё знаходжанне за мяжой. Адначасова намеснік старшыні БНФ мяркуе, што ўчынак З. Пазняка і С. Навумчыка асаблівай шкоды фронту не прынясе, хаця вакол гэтага факта, несумненна, разгорнуцца шумныя спекуляцыі з боку апанентаў БНФ. Што датычыцца магчымых кадравых змен у арганізацыі, то Ю. Хадыка лічыць, што гэта вырашыць час. Пакуль жа выконваючы абавязкі старшыні з'яўляецца Лявон Баршчэўскі, а канчаткова кіраўніка выбраць можа толькі з'езд. Дарэчы, афіцыйна Беларускі народны фронт пакуль на ўчынак двух сваіх лідэраў ніяк не адрэагаваў.

Аб магчымасці падобнага прэцэдэнту можна было здагадацца яшчэ на мінулым тыдні. Так, у інтэрв'ю газеце «Свободные новости плюс» жонка Сяргея Навумчыка сказала: «Права Пазняка і Навумчыка — вырашаць: вяртацца ім ці заставацца ў якой-небудзь краіне. Кожны раз у тэлефонных размовах мой муж задае пытанне: што мне рабіць, вяртацца ці заставацца? Я тлумачу яму ўсе мінусы для яго палітычнай кар'еры і даю права на асабісты выбар. Я не магу сказаць, што ведаю, якое рашэнне на сённяшні дзень яны прымуць». Праўда, перад гэтым Галіна адназначна заявіла, што вяртацца ў Беларусь Пазняку і Навумчыку небяспечна. Па яе інфармацыі, існуе загад, згодна з якім пры ўездзе на тэрыторыю Беларусі прадстаўнікоў БНФ павінны арыштаваць. «І калі яны будуць вяртацца, то ў нас ёсць боязь, што яны проста могуць з чыёйсьці дапамогай знікнуць», — кажа Галіна Навумчык. Акрамя таго, яна сцвярджае, што супраць З. Пазняка і яе мужа ўзбуджаны персанальныя крымінальныя справы. Адзін абвінавачваецца ў закліках да звяржэння існуючага дзяржаўнага ладу, другі — у закліках да міліцыі не выконваць загады начальства, г. зн. «умяшанне» ў дзеянні органаў улады.

Аднак гэтую інфармацыю ў адзін голас абверглі як першы намеснік Генеральнага пракурора Уладзімір Кандрацьеў, так і пракурор г. Мінска Мікалай Купрыянаў. Апошні, да таго ж, паведаміў, што Зянон Пазняк праходзіць толькі па справе аб фактах парушэння грамадскага парадку падчас несанкцыяніраванага шэсця ў сакавіку. «Гаварыць аб узбуджэнні крымінальнай справы адносна яго нельга, таму што мы нават не можам правесці допыт Пазняка. А што датычыцца Навумчыка, то ў нас наогул да яго няма прэтэнзій», — сказаў М. Купрыянаў. Дарэчы, прадстаўнікі пракуратуры адмовіліся нейкім чынам пракаменціраваць апошнія дзеянні апазіцыянераў. Не спяшаюцца з каментарыямі і высновамі і ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі. Ва ўсякім разе, учора афіцыйныя прадстаўнікі МЗС адмовіліся каменціраваць падзеі ў Вашынгтоне.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

***«ВЫРАТАВАННЕ»:***

# СУМЕСНАЯ АКЦЫЯ «ЗВЯЗДЫ» І БДФ «ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ» ПРАЦЯГВАЕЦЦА

*«Я і не спадзявалася на тое, што наша сям'я атрымае станоўчы адказ, што наша дзіця паедзе на аздараўленне за мяжу...»*

Менавіта так сказала адна маці, чыё дзіця ўжо адпачывае за мяжою. Безумоўна, сумненні кіруюць многімі з нас. Пішучы ў рэдакцыю «Звязды», бацькі многіх дзяцей і не чакалі, што іх запыт будзе вырашаны станоўча. Усяго рэдакцыя і БДФ «Дзецям Чарнобыля» атрымалі болей за 200 лістоў па акцыі «Выратаванне». Па 106 дзецях (як правіла тых, хто мае няпростыя захворванні, ніводнага разу не праходзілі аздараўлення) прынята рашэнне: усе яны летам паедуць за мяжу.

Вялікая група (60 чалавек) дзяцей па лініі БДФ «Дзецям Чарнобыля» паехала на аздараўленне ў мінулую нядзелю. Самалёт з беларускімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі накіраваўся ў Германію. Там, у невялікім горадзе Зонцберг, дабрачынная арганізацыя прымае дзяцей на аздараўленне ў пансіянаце. Сярод тых, хто паехаў 28 ліпеня, і 10 дзяцей па праграме «Выратаванне» (пачынаючы з сярэдзіны ліпеня ў розныя групы ўключаліся па 3—5 і болей дзяцей таксама з ліку тых, хто адклікнуўся на запыт «Звязды»).

Гутарачы з бацькамі адпраўленых хлопчыкаў і дзяўчынак, можна было пераканацца: «літаральна ўсе — з беларускай глыбінкі, адтуль, адкуль цяжэй за ўсё дастукацца да высокіх і дабрачынных інстанцый.

Што ж чакае дзяцей у нямецкім горадзе, у пансіянаце? Па-першае, прымаючы бок (БДФ «Дзецям Чарнобыля» пераканаⁿы ў гэтым па папярэдніх сезонах) і харчаванне, і адпачынак забяспечвае на самым высокім узроўні. Па-другое, па меры неабходнасці кожнаму з дзяцей будзе аказана медыцынская дапамога. На гэты выпадак усе падлеткі афіцыйна застрахаваны. Ніякіх праблем няма і з сувяззю (бацькам перададзены нумар тэлефона, паштовы адрас). Пансіянат знаходзіцца на беразе Ніжняга Рэйна. Дзяцей чакае адпачынак на беразе маляўнічых сажалак, у парках з багатым выбарам атракцыёнаў.

Кошт (а немцы збіраюць гэтыя грошы шляхам дабрачынных збораў) чатырохтыднёвага адпачынку адной групы з 60 дзяцей — 90 тысяч марак. З групай БДФ «Дзецям Чарнобыля» дасведчаны, прафесіянальны медык.

*«Звязда» і надалей, улічваючы пільную бацькоўскую ўвагу да акцыі «Выратаванне», будзе падрабязна інфармаваць пра адпраўку дзяцей на аздараўленне. Акцыя «Выратаванне» працягваецца. Мы чакаем вашых лістоў.*

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ЗАХОП ТЭРАРЫСТА Ў КОБРЫНЕ...

***Прайшло не так шмат часу з тых дзён, калі Беларусь узрушылі два выпадкі тэрарызму: захоп дзяцей-заложнікаў у Мінску і захоп кіраўніка аддзялення банка ў Кобрыне. І калі людзей, якія ратавалі дзяцей ад тэрарыста, які пагражаў выбухам, бачылі многія (гэтыя кадры неаднаразова трансліраваліся па тэлебачанні), то тых, хто захопліваў кобрынскага тэрарыста, мала хто ведае. Я гутару з адным з іх. Знаёмцеся — Ждан Аляксандр Мікалаевіч, капітан міліцыі. Менавіта ён закрыў сабой чалавека, які трапіў у бяду, менавіта ён разам з таварышамі абясшкодзіў злачынцу. Сярэдняга росту здаравяк, з высокім і адкрытым ілбом. Спакойны пагляд выдае ўпэўненасць і моц.***

**— Аляксандр Мікалаевіч, як вы апынуліся на месцы здарэння?**

— Па сігналу «Збор» усе супрацоўнікі былі падняты па трывозе і так атрымалася, што па прычыне пастаяннай гатоўнасці да нештатных сітуацый я аказаўся ў ліку трох супрацоўнікаў, якія прыбылі да банка першымі.

**— Чаму менавіта вы аказалі самае актыўнае процідзеянне злачынцу і не пабаяліся прыкрыць грудзьмі незнаёмага чалавека?**

— Я думаю, што гэта перш за ўсё вопыт. Стажыроўка ў Петразаводску, ва ўзводзе спецназа па вызваленню самалётаў і выкараненню спроб угону. Там давалі вельмі сур'ёзную спецыяльную тактычную, фізічную і маральную падрыхтоўку. Не магу забыць і службу ў Сібіры, у спецчасцях унутраных войскаў. Усюды рыхтавалі да дзеянняў у экстрэмальных абставінах, і вось нечакана гэта падрыхтоўка спатрэбілася. Я проста ўжо не раздумваў, калі некаму трэба было быць першым...

**— Якія эмоцыі вы зведвалі ў ходзе хуткацечнага спынення дзеянняў тэрарыста?**

— Ніякіх. Эмоцыі не прыносяць карысці ў ходзе хуткага бою. Дзеянні павінны быць адпрацаваны да аўтаматызму. Памятаю толькі, што пастаянна праходзіла думка — нейтралізаваць і абясшкодзіць, забяспечыць бяспеку людзей.

**— Што вы адчулі, калі пра вас сталі гаварыць як пра героя?**

— Героем я сябе не лічу. У гэтых абставінах кожны супрацоўнік міліцыі зрабіў бы тое ж самае. Хоць у прэсе часам супярэчліва падаецца гэта здарэнне, я не магу перабольшваць значнасць звычайнага, па маіх мерках, чалавечага ўчынку. І калі лёс зноў прымусіць мяне апынуцца ў падобных абставінах, я зноў не раздумваючы прыйду на дапамогу тым, каму пагражае злачынца.

Я ўдзячны тым, хто быў побач. Плячо таварыша — вось што надае ўпэўненасць у сваіх сілах. Цаню добрых людзей. А сваім абавязкам лічу абараняць людзей.

**Аляксандр ПУГАЧ.**

# «ЗАСВЯЦІЛІСЯ» ЧАРНІЦЫ

**Тэма радыяцыі і здароўя не можа не хваляваць беларусаў. А таму кожнае новае паведамленне аб «засвечанай» прадукцыі выклікае пэўны рэзананс.**

Так, пастановай галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача г. Мінска В. М. Чалнова ад 26.07.96 г. была забаронена рэалізацыя партыі свежых чарніц, якая прызначалася на экспарт і паступіла на базу гарспажыўгандлю з Петрыкава. Пры даследаванні проб ягад у дзвюх з іх было ўстаноўлена перавышэнне ўтрымання цэзію: пры максімальна дапушчальным узроўні гэтага радыеактыўнага элемента не вышэй 185 Бк/кг у адной з проб быў зарэгістраваны паказчык 225 Бк/кг, а ў другой — 318 Бк/кг.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# НАВАБРАНЦАЎ-РАГАЧОЎЦАЎ ВІТАЛІ ЗЕМЛЯКІ...

**У той дзень маладое салдацкае папаўненне 120-й Рагачоўскай гвардзейскай мотастралковай дывізіі прымала воінскую прысягу.**

У маштабах краіны падзея звычайная, з тых, што бываюць па два разы на год. Ды і ў кожнай, лічы, воінскай часці. Для кожнага ж салдата прыняцце прысягі — дзень урачысты, запамінальны.

Прымалі прысягу воіны самых розных спецыяльнасцей. Па пярэстаму натоўпу, што акружаў пляц, заняты падраздзяленнямі навабранцаў, здавалася, прысягу прымаюць таты і мамы, сябры і сяброўкі, нават бабулі і дзядулі. Кожнаму з іх карцела хутчэй знайсці ў салдацкім страі знаёмы твар. Многіх жа пілотка, форма, новая прычоска змянілі да непазнавальнасці. Шукалі сваіх навабранцаў і рагачоўцы. Традыцыяй стала, што двойчы на год прыходзяць служыць у славутую, ардэнаносную дывізію прызыўнікі з Рагачова.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

ПАДПІСКА-96

# «ЗВЯЗДА» ДЗЯКУЕ ПАШТАЛЬЁНАМ

Мы ў рэдакцыі ўважліва вывучаем геаграфію распаўсюджвання газеты, **радуемся кожнаму новаму чытачу.** Прыемна, што ва ўмовах адсутнасці прымусу, які існаваў раней, адзіную штодзённую беларускамоўную газету выпісвае амаль адзін працэнт насельніцтва краіны. Больш за ўсё чытачоў у нас ў Мінскай і Гродзенскай абласцях, аднак дзе б ні жыў наш чытач, мы ўдзячныя яму за павагу да роднай мовы, да зместу і пазіцыі газеты ў асвятленні падзей.

**Мы дзякуем работнікам пошты.** Мы трымаем слова і адзначаем прэміямі раённыя вузлы сувязі, у якіх маецца найбольшая колькасць падпісчыкаў на нашу газету:

1. **Слуцкі РВПС — 3.000.000 рублёў.**
2. **Капыльскі РВПС — 2.500.000 рублёў.**
3. **Навагрудскі РВПС — 2.000.000 рублёў.**

**Заахвочвальныя прэміі ў памеры 500.000 рублёў атрымаюць** Глускі, Жлобінскі, Глыбоцкі, Ляхавіцкі, Карэліцкі, Вілейскі, Клецкі, Валожынскі, Стаўбцоўскі і Любанскі раённыя вузлы паштовай сувязі.

Мы спадзяёмся, што са згаданых сум у межах раёна **будуць адзначаны лепшыя паштальёны** — распаўсюджвальнікі «Звязды». Зрэшты, мы звяртаемся да саміх паштальёнаў: наступны год — юбілейны для газеты (ёй спаўняецца 80 гадоў), таму рэдакцыя будзе заахвочваць кожнага, хто пры падпісцы на «Звязду» на наступны год дасягне найлепшых вынікаў. Умовы гэтага конкурсу зараз распрацоўваюцца ў рэдакцыі і будуць даведзены да кожнага з вас як праз кіраўніцтва «Белпошты», так і праз публікацыю ўмоў на старонках газеты.

Што датычыць чацвёртага квартала гэтага года, то **ўмовы заахвочвання застаюцца ранейшымі**: першая прэмія — 3 мільёны, другая — 2,5 мільёна, трэцяя — 2 мільёны і дзесяць заахвочвальных прэмій па 500.000 рублёў. Адзначым, што мяжа першага месца ў трэцім квартале была 2876 падпісчыкаў на раён.

**Рэдакцыя спадзяецца на тое, што да канца года наша газета зойме пачэснае месца ў жыцці кожнага беларуса.**




**ПАДПІСКА ПРАЦЯГВАЕЦЦА**

**Нагадваем вам, што падпіска на верасень і да канца года працягваецца.**

Падпісная цана «Звязды» на 1 месяц складае 13.600 рублёў, на 4 месяцы — 54.400 рублёў.

**Памятайце: «Звязда» — гэта самая свежая і самая патрэбная інфармацыя.**

# СПАЧАТКУ ГАЗЕТЫ, А ПОТЫМ МАКАРОНА. АЛЕ НЕ ПАВЫШАЙЦЕ НА ІХ ЦЭНЫ

Выпісваю «Звязду» кожны год. Вось і зараз аформіў падпіску адразу на 6 месяцаў — да канца сёлетняга, 1996 года. Але за тое, што буду атрымліваць ваша выданне, давялося выкласці з кашалька 81.600 рублёў. Пагадзіцеся, што гэта нямала.

Разам з тым разумею: без газеты — як без вады. Адно непакоіць: дакуль усё будзе даражэць, у тым ліку і газеты? Вы што, хочаце, каб усе пенсіянеры засталіся без іх?

Наколькі ведаю, многія цяпер ужо не выпісваюць: з-за дарагоўлі не маюць сродкаў. Калі ж падскочыць яшчэ кошт перыядычных выданняў, то прыйдзецца (а гэтага ніяк не хочацца) расстацца з любімай і добрай газетай «Звязда» ў наступным 1997 годзе. Раю: не дапускайце гэтага! Выпісваеш газету — абмяжоўваеш сябе ў прадуктах харчавання — цукры, макароне, іншых, якія і без таго не танныя, а яны ўсё даражэюць. Невядома толькі, да якога часу гэта будзе?

**Дзмітрый АЎСЕЙКА, жыхар в. Харошае Лагойскага раёна.**

***АД РЭДАКЦЫІ.***

*Мы ўдзячныя Вам, паважаны Дзмітрый Уладзіміравіч, за пастаяннае і моцнае сяброўства з нашай газетай. Шчыра дзякуем і за тое, што «Звязду» выпісалі да канца сёлетняга года і думаеце аб падпісцы на 1997-ы.*

*Нас таксама сур'ёзна хвалюе рост кошту перыядычных выданняў. І мы робім усё магчымае, каб наша газета была самай таннай і даступнай усім, у тым ліку і пенсіянерам. Такой тэндэнцыі будзем прытрымлівацца і ў далейшым. На жаль, цана — рэч упартая, і ў цяперашніх складаных эканамічных умовах яна не заўсёды і не ва ўсім, на жаль, залежыць ад рэдакцыі.*

АКАДЭМІК САМАРСКІ:

# «...НАВУКА, ЯК І ЎСЁ ГРАМАДСТВА, ВУЧЫЦЦА ВЫЖЫВАЦЬ У НОВЫХ УМОВАХ»

***Нядаўна госцем беларускай сталіцы стаў сусветна вядомы вучоны, акадэмік Расійскай акадэміі навук, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, дырэктар Інстытута матэматычнага мадэліравання РАН, загадчык кафедры вылічальных метадаў Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, кавалер 8 ордэнаў, аўтар 30 кніг па вылічальнай матэматыцы і матэматычнай фізіцы Аляксандр Андрэевіч Самарскі.***

***Тэма стану беларускай навукі сёння вельмі актуальная і хвалюе многіх, а таму неаднаразова падымалася ў нашай газеце. Як вядома, асаблівую каштоўнасць заўсёды ўяўляе погляд з боку, таму карэспандэнт «Звязды» сустрэўся з А. А. Самарскім, каб задаць яму некалькі пытанняў, якія цікавяць усіх.***

**— Аляксандр Андрэевіч, вы, несумненна, вельмі заняты чалавек...**

— Я прыехаў для ўдзелу ў чарговым Мінскім міжнародным форуме па цепла- і масаабмену, у якім прынялі ўдзел вучоныя з 10 краін былога Саюза і 12 краін далёкага замежжа, у тым ліку ЗША, Японіі, Германіі і г. д. Гэта вельмі буйная падзея не толькі для Беларусі, але і далёка не радавая падзея для ўсёй сусветнай навуковай грамадскасці. Хацелася б адзначыць высокі ўзровень яго арганізацыі і правядзення. У Інстытуце матэматыкі, у Беларускім дзяржаўным універсітэце працуюць многія вядомыя спецыялісты, сярод якіх ёсць і мае прамыя вучні — В. Абрашын, П. Матус і інш.

Пагадзіцца з тым, што матэматыка на Беларусі ці ў Расіі гіне, задыхаецца, я не магу. Такое меркаванне неаргументаванае і вельмі суб'ектыўнае. Вельмі... У цэлым яно можа толькі нашкодзіць развіццю беларускай навукі. У развіцці навукі на сучасным этапе, яе арганізацыі на агульнадзяржаўным узроўні ёсць шмат праблем, якія патрабуюць больш грунтоўнага абмеркавання. Калі коратка, то навука, як і ўсё грамадства, вучыцца выжываць у новых умовах.

За апошнія 40—50 гадоў неабходнасць вырашэння буйных навукова-тэхнічных праблем (стварэнне атамнай зброі, асваенне касмічнай прасторы, фізіка плазмы, экалогія) прывяла да незвычайна вострага росту патрабаванняў да матэматычных метадаў даследавання. Метады класічнай (аналітычнай) матэматыкі маюць абмежаваны абсяг прымянення. У цяперашні час асноўнымі інструментамі пазнання становяцца матэматычнае мадэліраванне і вылічальны эксперымент, які аб'ядноўвае аналітычныя сродкі і вылічальныя метады. Раней лічылася, што чысты матэматык робіць тое, што можа, але як трэба, а прыкладны матэматык — тое, што трэба, але як можа. Сучасны прыкладны матэматык на базе добра развітой тэорыі лікавых метадаў і моцных камп'ютэраў робіць тое, што трэба і як трэба. Даследаванні па матэматычнаму мадэліраванню і вылічальнай матэматыцы запатрабаваны жыццём і актыўна развіваюцца, у тым ліку і ў Інстытуце матэматыкі АНБ.

У актывізацыі гэтых перспектыўных работ несумненная заслуга належыць менавіта акадэміку І. Гайшуну. У наш складаны час за такі кароткі тэрмін (чатыры гады) ён шмат паспеў зрабіць у арганізацыі навукі. Створана Беларускае матэматычнае таварыства, праведзены шэраг нацыянальных канферэнцый па матэматыцы. Цалкам дапускаю магчымасць «геаграфічнага» фактара: ацэнка гэтых і іншых намаганняў Івана Васільевіча можа быць рознай з боку вучоных, якія тут працуюць, і тых, хто працяглы час знаходзіцца на Захадзе.

**— Ці не маглі б вы выказаць сваё меркаванне аб праблеме «ўцечкі мазгоў» на Захад?**

— Цяпер вельмі шмат гаворыцца аб стратах, якія наносіць айчыннай навуцы ад'езд нашых буйных вучоных за мяжу. Страты ёсць, калі навуковы работнік ад'язджае надоўга, губляе ўсялякую сувязь з калегамі, з навуковай школай. Але такіх, як можна меркаваць па цяперашняму інстытуту, мала. Вядучыя супрацоўнікі нашага інстытута, многія з якіх маглі б матэрыяльна няблага ўладкавацца на Захадзе, засталіся і, больш таго, актывізавалі сваю навуковую дзейнасць. Ва ўмовах фактычнай інфармацыйнай ізаляцыі навуковыя кантакты з замежнымі вучонымі трэба вітаць. Маладыя супрацоўнікі маюць магчымасць хутчэй інтэгравацца ў міжнароднае навуковае супольніцтва, могуць хоць неяк вырашыць свае фінансавыя і бытавыя праблемы.

З вялікім задавальненнем адзначаю наяўнасць групы маладых вучоных, якія працуюць непасрэдна ў Інстытуце матэматыкі АНБ і з энтузіязмам і на высокім прафесіянальным узроўні займаюцца тым, чым трэба і як трэба... Хто ж будзе пярэчыць, калі нехта з іх паедзе на паўгода на стажыроўку ў прызнаны заходні навуковы цэнтр?

**— Беларусь сёння вымушана выдаткоўваць вялікія сродкі на правядзенне навуковых даследаванняў, звязаных з пераадоленнем вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Безумоўна, матэматыкі ў гэтых абставінах таксама не засталіся ў баку...**

— Калі гаворка зайшла пра Чарнобыль, то хачу паведаміць вам, што ў нашым інстытуце распрацоўваецца мадэль (звярніце ўвагу!) бяспечнага ядзернага рэактара. Што гэта значыць? Літаральна некалькі слоў... Пры ўзнікненні аварыйнай сітуацыі на Чарнобыльскай АЭС яе рэактары маглі чакаць умяшання з боку кіравання, як гаворыцца, лічаныя хвіліны. На працягу трох гадоў у Інстытуце матэматычнага мадэліравання РАН вядуцца вылічальныя эксперыменты па аптымізацыі працэсаў спальвання ядзернага паліва і кіраванню рэактарам. Даказана магчымасць існавання рэактараў, якія змогуць «трываць» на працягу... некалькіх сутак. А ў перспектыве плануецца стварэнне такіх бяспечных рэактараў, якія будуць мець уласцівасці самаарганізацыі і самакіравання. Мы сёння праводзім даследаванні і фактычна ўжо праектуем рэактар, эксперыментальныя даследаванні якога на стэндзе абышліся б у трыльёны рублёў, трыльёны... А цяпер мы выдаткоўваем на гэтыя тэарэтычныя даследаванні, можа, дзесяткі, ну ў крайнім выпадку, сотні мільёнаў рублёў. Гэта несупастаўныя лічбы!

Хачу адзначыць таксама, што нядаўна выйшла мая кніга «Вылічальная цеплаперадача», напісаная сумесна з маім вучнем з Беларусі П. Н. Вабішчэвічам. Але паколькі яе цяжка было выдаць у Расіі, мы выдалі яе за мяжой на англійскай мове.

**— Аляксандр Андрэевіч, як вы лічыце, якія перспектывы для супрацоўніцтва расійскіх і беларускіх вучоных адкрывае інтэграцыя нашых краін?**

— Мы ніколі не гублялі навуковых сувязей. Мне асабліва хацелася б адзначыць сумесныя даследаванні па тэорыі лікавых метадаў, па матэматычнаму мадэліраванню праблем стварэння новых тэхналогій і экалогіі. У прыватнасці, сумесна з Інстытутам матэматыкі АНБ мы вывучаем уздзеянне канцэнтраваных патокаў энергіі (электронны, іонны, лазерны прамень) з мэтай атрымання матэрыялаў з новымі ўласцівасцямі.

У час майго візіту мы ацанілі сітуацыю і прыйшлі да высновы, што калектыў тут саспеў для больш глыбокай кааперацыі. Падрыхтавана пагадненне аб навуковым супрацоўніцтве паміж Інстытутам матэматычнага мадэліравання РАН і Інстытутам матэматыкі АНБ, мы склалі план сумесных работ і будзем дабівацца яго фінансавання з расійскага і беларускага фондаў фундаментальных даследаванняў.

Ёсць у нас таксама і сумесныя з Інстытутам матэматыкі АНБ міжнародныя праекты.

Разрыву навуковых сувязей паміж рускімі і беларускімі вучонымі не было, няма і не будзе. Прывяду характэрны прыклад. У Мінску пры актыўным і ўсебаковым садзейнічанні Інстытута матэматыкі АНБ выдаецца аўтарытэтны і прэстыжны навуковы часопіс «Дыферэнцыяльныя ўраўненні», заснавальнікамі якога з'яўляюцца Аддзяленне матэматыкі і Аддзяленне інфарматыкі, вылічальнай тэхнікі і аўтаматызацыі Расійскай акадэміі навук. Я разглядаю яго як орган адзінага руска-беларускага матэматычнага таварыства.

На заканчэнне я хачу сказаць, што не трэба абсалютызаваць ніякай адной навукі, яе аднаго раздзела. Усё вырашаецца толькі ў комплексе. Гэта першае. Другое — трэба мець павагу і цярпенне пры станаўленні навуковых калектываў і рабіць усё, каб яны былі арыентаваны на вырашэнне самых складаных і важных задач навукі і тэхнікі.

**Гутарыла Надзея НІКАЛАЕВА.**

# АДНЫМ СКАЗАМ

- У Беларусі жывуць каля **200 тысяч чалавек нелегальных мігрантаў:** пераважная іх колькасць — выхадцы з краін Азіі.
- За першае паўгоддзе ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 21 працэнт **знізілася колькасць злачынстваў** ва Узброеных Сілах рэспублікі.
- Па ацэнках намесніка старшыні Галоўнай падатковай інспекцыі Мікалая Дзянісава, у рэспубліку **паступіла кантрабандай** за шэсць месяцаў спіртнога на 15-16 мільёнаў долараў.
- Штодзённа ў бюджэт **паступае на 32 мільярды рублёў менш,** чым планавалася.
- **Імпарт алкагольных напояў у Расію** ў студзені—маі 1996 года на 56 працэнтаў перавысіў аналагічны паказчык мінулага года і дасягнуў (без уліку неарганізаванага гандлю) 495 мільёнаў долараў.
- 76 працэнтаў з ліку перасяленцаў, якія раней пражывалі на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях Беларусі, **маюць пачатковыя стадыі нервова-псіхічных расстройстваў,** — аб гэтым сведчаць вынікі даследаванняў Гомельскага медінстытута.
- Каля 200 мільёнаў чалавек штогод **заражаюцца малярыяй,** і больш за 1 мільён дзяцей **паміраюць** ад гэтай хваробы толькі ў адной Афрыцы.
- Прадукцыя нашых прадпрыемстваў, якія спецыялізуюцца на выпуску медпрэпаратаў, **толькі на 20 працэнтаў** задавальняе попыт ад неабходнага асартыменту.
- На палях рэспублікі за сезон **застаецца каля 600 тысяч тон збожжа,** што прыкладна роўна гадавому імпарту нашай краіны.
- **Колькасць стратных прадпрыемстваў** у гандлі з 400 у 1995 годзе скарацілася да 174 у гэтым.
- **З прымяненнем агнястрэльнай зброі** за першае паўгоддзе ўчынена 206 злачынстваў.

# «РЭВІЗОР» З ВУЧЫЛІШЧА

**«Прадпрымальнасць» сучаснай моладзі не перастае здзіўляць**

Так, 28 ліпеня ў ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў у рукі супрацоўнікаў Мінскага АУС на транспарце трапіў юнак, навучэнец Мінскага вучылішча чыгуначнага транспарту, жыхар пасёлка Міханавічы. Будучы чыгуначнік прадстаўляўся рэвізорам і займаўся зборам штрафаў з пасажыраў. Ён нават выпісваў «зайцам» квітанцыі з кніжачкі, якую яму пашчасціла знайсці!..

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

Ніл ГІЛЕВІЧ

# З РОЗДУМАЎ АБ НАДЗЁННЫМ

## Да пытання пра вінаватых

Адны спрытныя, пераважна — партыйна-савецкія начальнікі і самі банкіры, набралі крэдытаў — ільготных, неверагодна выгадных, за якія пабудавалі сабе трохчатырохпавярховыя палацы за горадам, накуплялі мерседэсы, прыватызавалі праз аўкцыёны дзяржаўную маёмасць, адкрылі свае фірмы ці прадпрыемствы і сталі «новымі беларусамі». (На іх крэдыты пайшлі ўклады соцень тысяч «дурняў», у тым ліку «шаноўных і дарагіх» пенсіянераў, ветэранаў вайны і працы. Як пайшлі, дык і пайшлі: інфляцыя з'ела іх да рубля і ператварыла ўкладчыкаў у жабракоў).

Другія спрытныя ўсё жыццё кралі, бралі, цягнулі і, дачакаўшыся свайго «зорнага часу», скарысталі прынятыя яшчэ ў Маскве подлыя законы, спакойна абялілі накрадзеныя грошы і таксама пабудавалі, пакуплялі, прыватызавалі, адкрылі і г. д., усё — як і першыя, і гэтаксама сталі «новымі беларусамі». Цяпер кіраўнікі дзяржавы — публічна, на тэлеэкранах — шукаюць прычыны жахлівага збяднення працоўных мас народу, прычыны небывалага сацыяльна-класавага расслаення і даюць наіўным зразумець, што ўсё гэта — вынік распаду СССР і вінаваты ў гэтым «нацыяналісты». Наіўныя — асабліва абрабаваныя ветэраны вайны і працы, пенсіянеры — вераць і паўтараюць: «Так, так, гэта ўсё нацыяналісты нарабілі, бэнээфаўцы праклятыя!..»

Які ўжо год чую гэты няўцямны паклёп на «беларускіх нацыяналістаў», г. зн. на рупліўцаў беларускага нацыянальнага адраджэння, і няма мяжы майму здзіўленню: да чаго ж паразіла людзей слепата, да чаго ж глыбока ўпалі яны ў гэтую няўцямнасць, як лёгка падаліся ачмурэнню чарговай хлуснёй! І зноў і зноў хочацца крыкам крычаць на ўсю нашу няшчасную Беларусь:

— Людзі! Дарагія, сумленныя, пакрыўджаныя рабаўнікамі і даведзеныя да жабрацкага стану людзі! Ды што ж вы паўтараеце гнюсныя паклёпы нягоднікаў! Ды паглядзіце ж вы на тых, хто за ваш кошт разбагацеў і рассыцеў! Ды назавіце ж вы іх — усіх да аднаго — паімённа! Хто з іх «беларускі нацыяналіст»? Колькі сярод іх тых, каго так у злосці і нянавісці абзываюць? У злосці і нянавісці таму, што гэтак званыя «беларускія нацыяналісты» думаюць і турбуюцца пра вас і пра нашу з вамі радзіму Беларусь — як яе зрабіць сапраўды свабоднай і незалежнай. Бо толькі ў такой краіне, стаўшы гаспадарамі лёсу, вы перастанеце быць жабракамі.

Таму яшчэ і яшчэ раз заклікаю: Людзі! Назавіце імёны тых, хто сёння плюе на вас з вышыні сваіх казачных палацаў і праз фортку сваіх шыкоўных лімузінаў! Назавіце ды паглядзіце, пацікаўцеся, хто з іх чым дыхае — якім «беларускім нацыяналізмам»? Усе яны дыхаюць адным: ненасытнай прагай красці і грэбці пад сябе народнае дабро. Вось і ўся вам праўда наконт вінаватых, шаноўныя суайчыннікі!

Дарэчы, калі б сярод гэтых мультымільянераў былі гарачыя прыхільнікі беларушчыны, беларускай мовы і культуры, не ляжалі б гадамі ў рукапісах кнігі беларускіх пісьменнікаў-патрыётаў, — знайшліся б фундатары на іх выданне. І вы прачыталі б праўду пра наша жыццё і пра тое, як яго зрабіць лепшым. На жаль, на сумленную і праўдзівую літаратуру фундатараў не знаходзіцца. Тым часам справа ў краіне ідзе да таго, што скора і вось такія нататкі апублікаваць будзе нельга. Пад сцягам барацьбы з «беларускім нацыяналізмам» будзе зліквідавана ўсякая магчымасць развіваць літаратуру, адукацыю і навуку на роднай мове, развіваць беларускую нацыянальную культуру і мастацтва. Гаспадары сённяшніх палацаў і ўкладаў у замежных банках глядзяць на ўсю гэту беларушчыну з той жа пагардай, з якою глядзяць на тых, каго абрабавалі, за чые працоўныя мазалі, за чыё здароўе забяспечылі сабе і сваім нашчадкам райскую будучыню.

## Цікавая адметнасць

Калгасная і саўгасная вёска канчаткова занепадае, гіне, дабітая да ручкі, даведзеныя да ляжачага стану гаспадаркі адна за другой банкрутуюць, — так амаль у адно пяро пішуць журналісты, амаль у адзін голас сцвярджаюць вучоныя аналітыкі-эканамісты. Можа, і занадта азмрочваецца агульная карціна, можа! Мы, беларусы, на гэта здольныя, рыса такая ёсць у нас — прыбядняцца і плакацца. Тым не менш, што праўда: у цэлым калектывізаваная некалі вёска сёння ў вельмі цяжкім становішчы. На жаль, яна ўсё больш бяднее і чахне, усё ў ёй скарачаецца: і пагалоўе, і надоі, і прырост, і «пасяўныя плошчы» (во ўзбагацілі мову!), і ўраджаі і г. д. Калі што і расце — дык гэта колькасць дач і дачнікаў. Ну, і вядома, п'янства.

І вось на фоне гэтага агульнага заняпаду і збяднення нашых калгасаў і саўгасаў, убогіх хат і двароў большасці вяскоўцаў міжволі кідаецца ў вочы адна адметнасць: амаль не кожны другі кіраўнік гаспадаркі за апошнія шэсць-сем гадоў адгрукаў сабе новую даміну. Ды што там даміну — хароміну, палац! І не абавязкова там, дзе кіруе. І не абавязкова на сваё імя — ёсць жа дзеці, ёсць бацькі, ёсць браты і сёстры. Цікавая адметнасць наводзіць на цікавыя думкі, накшталт: дык а за якія ж сродкі і якімі спосабамі? Дык а чаму ўсе астатнія, радавыя земляробы не могуць сабе адгрукаць такое? І дзе ж тая абяцаная статутам улада праўлення? І чаго варта тое праўленне, чаму яно — пусты гук, фікцыя? А галоўнае, а галоўнае, а галоўнае: чаму ў нас іначай і быць не можа?

На апошняе пытанне можна падказаць і адказ: а таму, што земляроб не з'яўляецца ў нас гаспадаром зямлі. Таму што ў нас пануе дзяржаўна-феадальная сістэма. Як і паўтараста гадоў назад, у часы Някрасава: «Вот приедет барин, барин нас рассудит».

## «Не дзіва, што ніякага парадку няма...»

Гадоў дваццаць назад, помню, мая старэйшая сястра, прыехаўшы з вёскі ў Мінск, дзялілася са мной сваімі сямейнымі навінамі:

— А мне, браток, бяда з маім старым, такі нервовы стаў — проста рады няма! Як толькі паявіцца ў тэлевізары Брэжнеў і пачне шамкаць, варушыць сваёй устаўной сківіцай — крычыць благім матам: «Убярыце!» «Убярыце, — крычыць, — гэтага ёлупня, а то тут жа паб'ю тэлевізар! Убярыце, каб і духу не было! Каб я яго не бачыў! Калі ім (г. зн. тым, што яго паставілі на пасаду) прыемна яго глядзець і слухаць — хай глядзяць і слухаюць! А я не хачу!.. Сораму няма аніякага! Павыжывалі з розуму — і кіруюць такой дзяржавай!..» І во так, браток, кожны раз, як толькі вылезе на экран гэны.

— Ну і што ты — выключаеш? — пытаюся.

— Не выключаю, стараюся супакоіць якнебудзь. Але і сама думаю: ну, ён жа праўду крычыць. Ну, колькі ж можна цярпець такое?! Не дзіва, што ніякага парадку няма, што ўсюды жулікі ды прайдзісветы сядзяць...

Швагер (ужо колькі гадоў як нябожчык, мір праху яго) быў камуністам, у партыю ўступіў на фронце. Разумею, што яму было сорамна і крыўдна — і за сваю партыю, і за сваю краіну. Яму, радавому партыйцу — было, а ці было — рознага рангу партыйным кіраўнікам? Наколькі ведаю — многім было таксама. Можа, нават большасці. Дык што ж гэта такое тады адбывалася? Думаю, не так і цяжка адказаць на гэта пытанне — што? Поўнае знявер'е адных, цынізм і маральная дэградацыя другіх. Тое, што ў 1991 годзе не дало дваццацімільённай партыі адстаяць сябе. Партыі як арганізацыі ідэйна перакананых камуністаў-аднаверцаў ужо даўно не было.

Сёння зняверaныя і ашуканыя — пакутуюць, амаральныя і цынічныя — працвітаюць, ды яшчэ так, як ім нават самім у тыя ранейшыя часы не снілася. Ну а тых, што ад агіды гатовы пабіць тэлевізар — стала, здаецца, яшчэ больш.

## А пра галоўнае — амаль не гаворым...

Шукаем выйсця з небывалага цяжкага эканамічнага становішча, думаем, як наладзіць сацыяльны дабрабыт працоўнага люду, ускладаем надзеі на новыя, лепшыя законы, на рэферэндумы і ўказы, на гаспадарчыя і фінансавыя рэформы, на інтэграцыі і інвестыцыі, і на многае-многае іншае. Шукаем, думаем, выказваем меркаванні і не гаворым, ці амаль не гаворым пра галоўнае. А галоўнае, гэта — з чаго пачынаць? З чаго пачнём? Заўсёды ж адвеку, усё, і добрае і благое, з чаго-небудзь пачынаецца. Дык — з чаго пачнём узыход, адраджэнне, станаўленне?

Пачнём з развітання з хлуснёю. Зробім хоць самы першы, самы маленькі крок ад хлусні да праўды. Хлусня-няпраўда пабіла наш грамадскі арганізм, як іржа, і калі яго не ачысціць ад гэтае іржы — яна праесць яго наскрозь і паўсюдна, і ратаваць будзе позна. Вось чаму: калі мы не развітаемся з хлуснёю, са схільнасцю і здольнасцю хлусіць, ашукваць і красці — мы ніколі не выберамся з тупіка, нам нішто не дапаможа: ні рынкавы капіталізм, ні планаваразмеркавальны сацыялізм. Таму што: першы — будзе дзікі, драпежны, хапужны, разбойны, пірацкі, агідны, нялюдскі, другі — апатычны, раўнадушны, п'яніцкі, фальшывы, цынічны, агідны, нялюдскі... Крайнасці сыходзяцца: і так, і гэтак — агідны і нялюдскі.

Прыгледзімся, шаноўныя грамадзяне, да саміх сябе, да свайго жыцця, да сваіх паводзін, да маралі, якою кіруемся. Колькі ўжо (тысячы? дзесяткі тысяч? ці... больш?) у нашай краіне людзей, для якіх: схлусіць — як сплюнуць; узяць хабар — як сплюнуць; абважыць — як сплюнуць; усунуць пакупніку няякасны тавар — як сплюнуць; пераступіць закон і нават Канстытуцыю — як сплюнуць; абразіць чалавека — як сплюнуць; а ўжо і забіць за нішто чалавека — таксама як сплюнуць...

Калі гэта няшчасце пачалося ў нас і калі набыло такія маштабы, хто яго натхняў сваім прыкладам і што яму спрыяла — пытанне асобнае, якое запатрабавала б доўгай гаворкі; абмяжуемся тым, што канстатавалі факт, супроць якога не папрэш. Галоўная наша бяда — у гэтым. Прычына прычын, з ліквідацыі якой і трэба пачынаць, у гэтым: у абесчалавечанні чалавека, у разбэшчанні яго душы, у разбурэнні маральных асноў асобы. У тым, што зрабіць амаральны нялюдскі ўчынак стала лёгка як сплюнуць. Зразумела, што каб развітацца з гэтай бядою, якая для значнай часткі нацыі стала другой натуральнай, трэба па сутнасці перарадзіцца. Трэба прайсці праз ачышчэнне, якое, на жаль, будзе цягнуцца дзесяткі гадоў. Калі будзе мець месца наогул. Хочацца верыць, што будзе. Бо інакш... як гэта кажуць, самі разумееце.

## Тупік? Напэўна. Але — дзе?

Тое, што асуджалі, што не прымалі як бездухоўнае, бязглуздае, моцнае, што выклікала ў душы агіду, бо было пачварным, брыдкім, нялюдскім, — тое прыйшло і да нас, і ўкараняецца, ўсталёўваецца ў нашым жыцці, у нашым штодзённым побыце ўсё больш уладна і агрэсіўна. Перамагае і заваёўвае душы «жоўты д'ябал», дакладней — зялёны. Усё — дзеля яго. Усё вымяраецца ім. Мэта жыцця — у гэтым: як мага больш мець грошай.

І вось грошы ёсць, і шмат. Да таго ж не заробленыя, а нарабаваныя ці накрадзеныя. І грошы дазваляюць. Можна смачна піць і есці, вальготна бавіць час. Купляць дарагія рэчы, вопратку, абутак. Купляць шыкоўныя замежныя лімузіны. Купляць або будаваць раскошныя палацы-вілы. Ездзіць на знакамітыя прыморскія курорты — замежныя, вядома. Ну і яшчэ шмат чаго падобнага. Дзякуючы нядаўнім выбарам у Расіі, аднаго з такіх самазадаволеных аднаклетачных пашлякоў мы і бачылі, і слухалі.

Гэта і ёсць жыццё. Ідэал жыцця. Ідэал дабрабыту. Ідэал чалавечага шчасця. Скажаце, спрошчаны пагляд? А што тут спрошчана? І што спрашчаць? Ды прасцей ужо і быць не можа.

У маім разуменні, гэта не толькі не ідэал, але і не жыццё. Гэта — прымітыўнае, бездухоўнае, а таму бессэнсоўнае існаванне. Гэта — тупік. Страшны, змрочны тупік. Беспрасветны. Безнадзейны. Гэта — шлях выраджэння. Шлях назад ад культуры, ад духоўнасці, ад чалавечнасці. Ад нацыянальных асноў культуры і духоўнасці. Шлях да вось такой сытай цывілізацыі, якая прэтэндуе стаць глабальнай.

Стаўка на глабальны стандарт сытасці — і ёсць тупік. Перспектыва ж — у развіцці духоўнага, эстэтычнага і маральнага пачаткаў у чалавеку, ва ўзбагачэнні і ўдасканаленні яго духоўнага свету, у яго далучэнні да скарбаў культуры, літаратуры і мастацтва, да дасягненняў адукацыі і навукі. У гэтым кірунку не толькі тупіковай сцяны, але і ўвогуле ніякае мяжы няма. Перспектыва — бязмежная. Колькі будзе існаваць чалавецтва — столькі будзе існаваць магчымасць ісці ў гэтым кірунку далей, наперад. Гэта магчымасці плоці абмежаваныя (хоць і вялікія), а магчымасці духу — бясконцыя, невычэрпныя.

Здавалася б, пра гэта і павінен быць найпершы клопат грамадства. Асабліва душпастыраў яго — дзеячаў культуры, мастацтва, асветы. На жаль, на жаль! Паглядзіце, якія фільмы ідуць ужо гадоў трыццаць на каналах дзяржаўнага тэлебачання, на якіх узорах «мастацтва» мы выхоўваем дзяцей, моладзь, лепім будучыню. Але што сэнсу ў тысячны раз пра гэта гаварыць? Усё адно будзем каціцца ў гібельную прорву далей. І не спынімся, калі не перастанем маліцца д'яблу (жоўтаму, зялёнаму, чырвонаму). Ратунак у радыкальнай пераарыентацыі на духоўнасць.

Чую голас знаёмага разумніка-рыначніка — ідэйнага, перакананага, узброенага і сучаснымі ведамі, і найноўшай філасофіяй, і, канешне ж, жоўта-зялёнай мараллю: «Дык вы супроць таго, каб людзі жылі багата? Вы хочаце развіваць культуру і мастацтва на беднасці, на галечы і нэндзе?»

Адказваю: Ні ў якім разе! Не падменьвайце, калі ласка, сутнасць пытання. Я — за прыстойнае чалавечае жыццё (для ўсіх, хто працуе!), за нармальны чалавечы дабрабыт (для ўсіх, хто працуе!). Я — за тое, каб здабыты капітал (і грамадзяніна, і дзяржавы) служыў духоўнаму ўзвышэнню чалавека, працаваў на ўдасканаленне яго маральных вартасцяў, а не станавіўся самамэтай. Я — за тое, каб інтарэсы духа ішлі паперадзе інтарэсаў жывата, каб менавіта яны былі пуцяводнай зоркай для чалавечае грамады. Толькі і ўсяго!..

## Зямлю — нельга. А душу зямлі — можна?

Ужо колькі тыдняў, як на старонках «левых» газет выказваецца абурэнне і пратэст супроць узаконення права на продаж зямлі, асабліва — неграмадзянам Беларусі. Мой погляд на гэту праблему такі: зямлёю трэба бясплатна і з правам спадчыннасці надзяляць тых сваіх грамадзян, хто непасрэдна будзе на ёй працаваць і даваць краіне хлеб, гародніну, садавіну, малако, мяса, яйкі, мёд і г. д. Пра тое ж, каб прадаваць нашу зямлю замежнікам, і гаворкі не можа быць. Гэта — верны шлях у эканамічную кабалу, вынікам якой будзе палітычная смерць дзяржавы. Пры сённяшнім узроўні нацыянальна-гістарычнай самасвядомасці народа, пры той неразвітасці пачуцця нацыянальнай годнасці і гонару, якая дае чужакам права абыходзіцца з намі бесцырымонна, нахабна і цынічна, — продаж зямлі непазбежна прывядзе да таго, што мы страцім яе наогул, яна пяройдзе ў чужыя рукі, у лапы хціўых і драпежных захрыбетнікаў. І што тады нас чакае — адзін Бог-бацька ведае. У нас дагэтуль няма належнага разумення, што зямля — нацыянальны скарб, што берагчы і шанаваць зямлю — свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна. Калі б было гэтае разуменне — мы даўно пачуваліся б на сваёй зямлі сапраўднымі гаспадарамі і не карысталіся б ёю паводле бязглуздай самаедскай маралі — «а заўтра хоць патоп». І без таго, каб прадаваць зямлю чужакам, у нас літаральна падступіла да горла праблема яе выратавання. І не толькі чарнобыльская бяда маецца на ўвазе, а і ўсё астатняе, што характарызуе нас як апошніх недарэкаў і падупальцаў.

І так, разумею трывогу і заклапочанасць усіх тых, хто не хоча, каб наша прыгожая і ласкавая зямля драпежна знішчалася, атручвалася, нявечылася, ператваралася ў палігон ці ў суцэльную звалку ядзерных, хімічных і іншых вытворчых адходаў, у мёртвую бясплодную пустэльню. Правільна, зямлю з усімі яе прыроднымі багаццямі, з яе лясамі і лугамі, нівамі і садамі, з яе рэкамі і крыніцамі, азёрамі і балацінамі трэба берагчы і шанаваць, як само жыццё, бо яна і ёсць гарант нашага жыцця, яна — той сук, на якім мы ўсе разам сядзім, усім — колькі нас ёсць — народам. Правільна, аддаваць зямлю на знішчэнне, на выміранне, на амярцвенне — нельга. Нельга і яшчэ раз нельга! Гэта — не проста найвялікшы грэх, гэта — самазабойства, тупое і сляпое самазабойства.

Ну, а душу зямлі — мову — можна аддаваць на знішчэнне? Можна паганіць, калечыць, нявечыць, адсякаць ці адкрываць яе ад жывых каранёў і карэньчыкаў? Зямлю — пакінуць без душы, без уласнай мовы? Можна? Удумайцеся, людзі! Цела — без душы? Выбачайце, гэта ўжо не цела, гэта — труп. Спакон вякоў наша зямля ніколі не была безыменнай, і ўсё, што на зямлі — таксама. Тысячы парод дрэў, кустарнікаў, зёлак і траў — і ў кожнай ёсць сваё ўласнае адметнае найменне. Тысячы паселішчаў — гарадоў, мястэчак і вёсак — і ў кожнага сваё ўласнае ад нараджэння імя, якое няможна гвалтоўна перарабляць на іншае, як перарабілі геніяльна знойдзенае, сваё і роднае імя Рудабелка на бяздарнае, недарэчнае і чужое Октябрь. Тысячы ўрочышчаў, лясоў і пералескаў, пагоркаў і лагчын, азярын і балотцаў — і ў кожнага свая адвеку назва, трапная, дакладная, не выпадковая, а ўзважаная на шалях душы і розуму тых, хто кожны дзень сярод гэтых урочышчаў хадзіў, азіраў іх, думаў і гаварыў пра іх. Сотні чалавечых імён, мужчынскіх і жаночых, і ў большасці — свае, адметныя, натуральна дастасаваныя ў мілагучнасці да фанетыкі роднае мовы: Алесь, Міхась, Васіль, Пятрусь, Якуб, Тамаш, Тодар, Алена, Алеся, Ганна, Марыля, Міхаліна, Зося, Барбара, Параска, Палагея, Аўгіння, Альжбета, Дамініка, Александрына...

Дзіўныя ж мы людзі, беларусы, ды не так дзіўныя, як неразумныя і якіясь юродзівыя: адрываем, гонім прэч душу ад цела — і хочам, каб мёртвае цела служыла нам, ды яшчэ і каб з намі лічыліся, паважалі нас.

## Тым больш незразумела...

Думаю пра рускіх, пра самы шматлікі братні нам славянскі народ.

Народ такой вялікай, такой магутнай і самабытнай духоўнай культуры не можа не быць гаспадаром краіны адпаведна вялікай і магутнай. Яго зямля і яго душа, яго творчыя сілы павінны знаходзіцца ў такой суадпаведнасці. Так распарадзілася гісторыя. За тысячу з гакам гадоў на неабсяжных працягах ад Сожа і Бесядзі да Сахаліна склалася і ўсталявалася непаўторная, унікальная духоўная культура, якая істотна ўзбагаціла культуру сусветную, паўплывала — асабліва за два апошнія стагоддзі — на духоўнае развіццё блізкіх і далёкіх, вялікіх і малых народаў (не важна, што не ўсе на планеце гэта прызнаюць публічна).

Гэтым была прадвызначана роля рускай мовы ў якасці адной з моў сусветных,

— яе месца і значэнне ў
— у рэгіёне славянства і
краеў (Прыбалтыка, Зак
Фінляндыя, Манголія і
руская мова стала мов
ных зносін для дзесятка
і Азіі. Стала і будзе зас
доўгі-доўгі час, — якія
аддаленне ці адчужэння
рых краінах гэтага рэгі
Каб выйсці такой краіне
га сілавога поля рускай
рвацца ад Расіі эканам
культурна, а гэта, прын
перспектыве наўрад ці
б насуперак жыццёвым

Па вядомых прычына
крэўна-сваяцкай і тэрыт
сці, сказанае пра ролю р
туры ў славянскім свеце
даецца да Беларусі, да
хоўнага жыцця беларус
кая мова на Беларусі мае
большае з усіх замежны
Прычым беларусы будуц
добраахвотна, без прым
му, што без яе мы не
што веданне яе заўсёд
бытавым і на дзяржаўны
ным (як у многіх рэгіёнах
данне англійскай, або іс
цузскай, або нямецкай).
вучаць, і будзем ставіцца
натуральна, з удзячнасц
нам, беларусам, дала і да
розуму, для інтэлектуальн
віцця асобы, а праз асоб

Ведаючы гэта, разуме
на гаварыць, што руска
сі пагражае нейкі заняпа
разумныя «нацыяналісты
беларускі народ ад рус
чыць — ад рускай і сус
Тым больш не зразумела
чаго многія жыхары Бе
супраць беларускай мов
нага насельніцтва краін
якой такі ж паважаны, я
кай ці ўкраінскай (склад
ся паралельна). Мовы, пр
якой нават замежныя ву
ты прызналі дасканалы
масці і творчы патэнцыя
ныя, якая тысячы гадоў
нам зможа абслугоўваць
народа, які яе стварыў.
проць такое мовы вяд
Якая ў гэтым логіка? Адн
логіка каланізатараў, мэ
ваць тубыльцаў і за кош
падужэць, або гэта логі
бутэлькі, логіка невуцтва
гіка трыгладзіцтва. Але
яшчэ логіка мудрасці, с
манізму, па законах якой
ваюць узаемасупрацоўн
супольнасці інтарэсаў ц
ды. Няўжо яна не для на

## Прачыта з заменаю ад

Вядомы расійскі філ
М. М. Скатаў апублікава
вда» (за 11 і 13 ліпеня г.
пад назвай «... І Слова б
прысвечаны сучаснаму с
мовы і літаратуры, неба
аўтара, абвастрэнню мо
сённяшняй Расіі. Напіса
сійна, з дасканалым вед
і глыбокім разуменнем
уражвае грунтоўнасцю
сцвярджэнняў, мудрасцю
беларусаў, ён асабліва
ны, бо ў нас моўная пра
зацы вострая — яна ў н
фокусе, усе найбалючыя
Беларусі, нацыянальнай
кага народа за цэлае т
зволю сабе прывесці нека
тару яны не патрабуюць
шу ўсюды па тэксту слов
скій», «русская») замяніц
«Беларусь» («белорусский

«Отлучение от языка с
номические провалы, фи
и оборонные прорехи. Для
но отлучению от истории.
нет, тогда все: крышка. И

«Сейчас в крайней тр
уяснять, что в наших аф
зовательных ведомствах
из осознанных и направл
сделана ставка на **раз**
**нального начала** (тут і
аўтарам — **Н. Г.**), как бар
пятствующего вхождени
ный мир, в человеческун

Не отсюда ли и стр
взгляда, но в конце ко
дакция: появление «русс
знак беды! Важно и нужн
в России школ украински
зинских... Но что такое
ская школа? Вы может
Германии — немецкую ш
цузскую школу во Франц
**ла в России должна б**

Язык и литературу ка
обороны изнутри начал
ной из первых. Забыва
будет достигнут прямо п
Недаром Достоевский п
человеческую семью мы
только как национальная

НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# ЖНІВЕНЬ

*Старажытныя рымляне называлі гэты месяц «секстыліс» — шосты, і меў ён 29 дзён. Калі ж рымскі сенат прыняў рашэнне аб перайменаванні яго ў аўгустус (у гонар імператара Актавіяна Аўгуста), да яго дабавілі яшчэ два дні, бо Актавіяна Аўгуста паважалі гэтак жа, як Юлія Цэзара, у гонар якога быў названы папярэдні месяц.*

*Сучасная беларуская назва месяца — жнівень, гэтак жа, як і старабеларускія «серпень, зарев» адлюстроўвае прыродныя асаблівасці пары. Найменне «серпень» захавалася ў украінцаў, чэхаў, палякаў, іншых славян.*

**1. Макрыны (Макрэні, Макрэня)** — прысвятак, з якім асацыіруецца макрэча, дажджлівае надвор'е. «Як не будзе на Макрэні дажджоў, то не будзе бульба гнісці ў зямлі».

**2. Прарок Ілля (Лля, Галляш)** — апякун земляробства, абаронца ад нячыстай сілы, нясе ў сабе рысы язычніцкага бога Перуна. Нормай лічылася, калі на Іллю ішоў дождж: «Ілля нарабіў гнілля». Гэты дзень успрымаўся як рубеж паміж летам і восенню: «На Іллю да абеду лета, а па абедзе восень». Менавіта з Іллі забаранялася купацца. Прыйшоў Ілля і ўкінуў у ваду алядня».

**4. Марыя (Магдалена).** «На Марыю вялікія росы — будзе лён шэры і косы». Калі туман у гэты дзень халодны — зіма будзе ранняя і марозная.

**6. Барыс і Глеб.** У гэты дзень забаранялася прыбіраць сена, звозіць у гумно збожжа, скідаць стагі — лічылася, што так можна наклікаць пажар. Саломай ад зжатага ў гэты дзень хаты не крылі, бо лічылі, што страху знясе вецер ці спаліць маланка...

**9. Панцялей.** Угодніка Панцеляймона найбольш ушаноўвалі тыя, у каго часта балела галава: ён лічыўся лекарам гэтай немачы.

**12. Сіла (Іван).** «Хто на Сілу жыта пасее, у таго на хлеб надзея».

**14. Макавей (Першы (мядовы) Спас)** — свята Маку. Елі пірагі з макам, а таксама тое, у што можна макаць. На Макавея трэба было ўволю наесціся маку. У гэты ж дзень аглядалі пчол, збіралі з вулляў мёд.

**15. Прачыстая па каталіцкім календары.**

**19. Другі (яблычны) Спас** — самы вядомы і шаноўны ў народзе. Дзень садавіны. Звязваўся найперш з паспяваннем яблыкаў і іх асвячэннем у царкве. У народзе Другі Спас лічыўся днём адлёту буслоў. Калі буслы пачыналі рыхтавацца ў вырай за тыдзень перад Спасам, азначала, што зіма будзе ранняя і марозная, а вясна цёплая. Калі пасля Спаса — восень будзе цёплая, зіма позняя, вясна халодная.

**28. Прачыстая (Успенне, Багародзіца)** — самае значнае свята ў канцы лета. Паўсюдна спраўлялі дажынкі. Як Спас славіўся асвячэннем яблыкаў, так Прачыстая — асвячэннем хлеба. Абавязкова асвячалі «бараду» — апошні снапок з поля, зернем якога пачыналі пасля засеўкі.

**29. Трэці Спас.** Яго дзенідзе называюць «арэхавым»: якраз у гэты час паспяваюць арэхі.

**31. Фрол і Лаўр.** Гэтыя святыя ўшаноўваліся як заступнікі коней, таму гэты дзень называлі «конскім святам». На конях не працавалі, не запрагалі іх.

РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

# ...САБРАЦЦА Ў АДПАЧЫНАК

Хіба клопаты з пакаваннем чамадана, з якім ты рушыш на поўдзень, — клопаты? Калі вы маеце намер узяць з сабой максімум камфорту, купляйце чамадан, што на колах. І перамяшчацца з ім зручна, і цяжару адчуваць не будзеце. Каштуе такі чамадан 750 тысяч рублёў. Калі без колаў, то і цана меншая — 400 тысяч. А дарожную сумку і за 260 тысяч «зайчыкаў» можна набыць.

Узброіўшыся дэвізам «У дарогу — толькі самае неабходнае», скідваем у сумку шлёпанцы, майкі, шорты. Калі выбіраецца на поўдзень на пару тыдняў, то маек, шортаў, спаднічак трэба ўзяць па мінімуму — штукі па тры. Хаця майкі лішнімі ніколі не будуць, нават калі возьмеце іх з дзесятак. Самая сціплая цана і на жаночыя, і на мужчынскія футболкі — 40 тысяч. З разраду суперпатрэбных рэчаў — шлёпанцы і панамы. Першыя можна набыць за 50—90 тысяч рублёў. Праўда, калі на падэшве напісана «Made in Tailand» — чытайце «Выкінь грошы на вецер». Гэта датычыцца амаль усіх тавараў, выраблены у тых краях. Кажу, абапіраючыся на ўласны вопыт і вопыт сяброў. З набыццём галаўнога ўбору могуць узнікнуць складанасці. У матэрыяльным плане. Бо саламяны капялюш з вялікімі палямі каштуе да 150 тысяч рублёў, а капялюшык з ільняной тканіны — 60 тысяч. Кепкі-«аднасезонкі» прадаюцца за капейкі — нейкія 30 тысяч рублёў. Калі вы паважаеце тавары айчыннай вытворчасці, то вялізны ручнік, выраблены ў Рэчыцы, набудзеце за 115 тысяч. Ім і выцірацца можна, і ў якасці пасцілкі выкарыстоўваць. Плаўкі мужчынам абыдуцца ў 60—120 тысяч рублёў, купальнікі жанчынам — у 120—350 тысяч.

Сонцаахоўныя акуляры «з прэтэнзіяй» каштуюць 250 тысяч рублёў, без — 40—60. Калі на пляж вы ходзіце пераважна з летняй сумкай з матэрыі, рыхтуйце яшчэ тысяч 150, калі абыдзецеся звычайным поліэтыленавым пакетам, спатрэбіцца 5-6 тысяч. Трэба ж купіць іх пару штук, бо такія рэчы вельмі хутка выходзяць са строю.

Здаецца, з экіпіроўкі набылі больш-менш усё, пры ўмове, што ў гардэробе ў вас ёсць некалькі спадніц і штаноў.

Сродкі туалету, а таксама кавалак гаспадарчага мыла патрабуюць нязначных затрат. Хаця на кніжкі, мячы і карты вашых «адпускных» наўрад ці хопіць. Таму апошнія рэчы лепш мець ужо да таго, як вы збіраецеся ў водпуск, ці ўзяць у часовае карыстанне ў сяброў.

Нават калі рабіць сціплыя пакупкі, у мільён ледзь-ледзь «уціснешся». Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што білеты на поўдзень вы ўжо набылі. Да Сімферопаля, у прыватнасці, плацкартны каштуе 270 тысяч рублёў, купэйны — 420. Памножце цяпер на два. Столькі каштуе праезд туды і назад. Дадайце кошт пасцельнай бялізны ў цягніку. Сумы, што далі на рабоце, адпраўляючы вас у водпуск, як не было. Зрэшты, што перажываць? На поўдні нашы «зайчыкі» — не грошы, мяняюць толькі расійскія рублі і долары. Так што з сабой трэба ўзяць толькі на аплату кватэры 30 долараў — гаспадыні бяруць за суткі 2 долары з чалавека. Колькі вы растраціце на розныя спакусы — садавіну, агародніну і забаўляльныя мерапрыемствы — ад вас залежыць. Фотаздымкі на памяць вам таксама абыдуцца нятанна, таму лепш набыць звычайную «мыльніцу» ды каляровую плёнку «Kodak» за 65 тысяч. Дваццаці чатырох кадраў вам будзе дастаткова.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

ПАСЛЯ ВЫСТУПЛЕННЯ «ЗВЯЗДЫ»

# Калі ж, нарэшце, будзе пастаўлена канчатковая кропка ў «вайне» лакальнага значэння?

*Творчая інтэлігенцыя г. Жлобіна працяглы час настойліва патрабавала ад мясцовага гарвыканкома, каб у горадзе быў створаны цэнтр нацыянальнай культуры. Ажыццявіць такую задуму з'явілася магчымасць у 1993 годзе, калі павінен быў закрыцца дзіцячы сад № 10, двухпавярховы будынак якога пасля рамонту і рэканструкцыі, а затым і далучэння да гісторыка-краязнаўчага музея стварыў бы адзіны архітэктурны ансамбль.*

*На жаль, карыснай і вельмі патрэбнай справе перашкаджала адна сур'ёзная акалічнасць: дзетсад належаў Гомельскаму аддзяленню Беларускай чыгункі, а яго кіраўніцтва на правах уласніка якраз і не хацела аддаваць гарвыканкому гэта памяшканне.*

*Распачалася ўпартая барацьба за валоданне апусцелай пабудовай. Артыкул нашага ўласнага карэспандэнта па Гомельскай вобласці Уладзіміра Пернікава, які спецыяльна выехаў на месца, так і называўся «Вайна» лакальнага значэння з-за дзіцячага садка» («Звязда», 21 сакавіка г. г.). Гэта публікацыя заканчвалася на высокай надзейнай ноце: «Няўжо канчатковую кропку... тут можна будзе паставіць толькі на ўзроўні Кабінета Міністраў?»*

Рэдакцыя атрымала рэагаванне за подпісам **намесніка міністра па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Рэспублікі Беларусь В. НЕКРАШЭВІЧА**. Васіль Фёдаравіч, у прыватнасці, паведамляе:

— У мэтах выканання даручэння Кабінета Міністраў ад 4 красавіка 1996 г. наша міністэрства разгледзела публікацыю ў газеце «Звязда» за 21 сакавіка 1996 г. па пытанню выкарыстання дзіцячага сада № 10 у г. Жлобіне.

Пісьмом ад 19 красавіка 1996 г. № 03-02-05/1492 Міндзяржмаёмасць звярнулася да кіраўнікоў Беларускай чыгункі, у Гомельскі аблвыканком і Жлобінскі гарвыканком з растлумачэннем патрабаванняў дзеючага заканадаўства па гэтаму пытанню, прапановай аб перадачы спрэчнага аб'екта ў камунальную ўласнасць і просьбай прадаставіць дадатковыя звесткі для інфармавання рэдакцыі газеты «Звязда».

Беларуская чыгунка пісьмом ад 10 мая 1996 г. № Н10-10/49 даслала новую інфармацыю, якая не была адлюстравана ў публікацыі «Звязды», аб рашэнні Жлобінскага гарвыканкома ад 27 снежня 1994 г. вывесці ўказаны дзіцячы сад з аб'ектаў сацыяльнай сферы з-за адсутнасці патрэбнай колькасці і кантынгенту дзяцей.

У сувязі з гэтым Беларуская чыгунка мела права прымаць рашэнні па распараджэнню будынкам дзіцячага сада ў межах паўнамоцтваў, прадастаўленых ёй як уласніку, у тым ліку перадачу яго ў веданне МУС на баланс лінейнага аддзела транспартнай міліцыі.

Як зазначаецца далей, Міндзяржмаёмасць не пярэчыць супраць перадачы гэтага будынка ў камунальную ўласнасць ва ўстаноўленым парадку пры наяўнасці згоды Беларускай чыгункі, якая да гэтага часу не атрымана. Улічваючы раней накіраваныя хадайніцтвы да Беларускай чыгункі ад Міністэрства культуры, Саюза мастакоў, пытанне, на нашу думку, можа вырашацца Кабінетам Міністраў па ініцыятыве Гомельскага аблвыканкома. Аднак, на жаль, ён, як і Жлобінскі гарвыканком не адказалі на наша пісьмо-запыт.

**Дык што, выходзіць, канчатковая кропка ў «вайне» лакальнага значэння ўсё яшчэ не пастаўлена? Хто ж тады гэта зробіць?**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# «Крута, браткі, крута...»

**Публікацыя і фота пад такім загалоўкам былі змешчаны ў «Звяздзе» 12 чэрвеня. Расказвалася пра шыкоўныя «джыпы», рыначная цана якіх складае 30—40 тысяч амерыканскіх долараў. Гэтыя машыны былі ўкрадзены за мяжой і дастаўлены на Гродзеншчыну з мэтай, хутчэй за ўсё, далейшай рэалізацыі.**

І вось днямі лёс аднаго аўтамабіля вызначыўся. Аб гэтым паклапаціліся супрацоўнікі ўпраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці сумесна з гродзенскімі работнікамі ўпраўлення МУС па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і «Інтэрполам». Удалося адшукаць гаспадара іншамаркі. Праўда, на гэты момант ён ужо атрымаў страхоўку ў варшаўскім аддзяленні акцыянернага страхавога таварыства «Варта», якое ў выніку стала юрыдычным уладальнікам «джыпа». Прадстаўнік «Варты» Яраслаў Вансовіч прыехаў у Гродна і забраў машыну. Такім чынам, пачатак пакладзены, але якім будзе лёс астатніх «колаў», пакуль невядома. Таксама наперадзе работа па высвятленню абставінаў, пры якіх крадзеныя аўтамабілі трапілі ў Прынёманскі край.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**



***Жыццё пражыць — не поле перайсці!..***
***Удвая лягчэй удвух па ім ісці...***

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

ТРАНСПАРТ І МЫ

# СМОГ НАД ГОРАДАМ

Колькасць транспарту за апошнія пяць гадоў у нашай сталіцы вырасла ў два разы, а рэканструкцыя і будаўніцтва вулічна-дарожнай сеткі па многіх пазіцыях адстае на цэлае дзесяцігоддзе. Паводле ацэнкі спецыялістаў, уклад аўтамабіляў у атручванне атмасферы складае ад агульнай колькасці забруджванняў ад 60 да 70 працэнтаў. Асабліва ў незайздросным становішчы апынулася сталіца рэспублікі. На вялікіх дарожных артэрыях горада, такіх, як Партызанскі праспект, вуліц Максіма Багдановіча, Ваупшасава, а таксама ў раёне аўтамабільнага і трактарнага заводаў, дзе найбольшая канцэнтрацыя транспартных адзінак, нярэдка вісіць шызы смог. Урачам сталіцы ўсё часцей і часцей даводзіцца сутыкацца з выпадкамі, калі ад недахвату кіслароду людзі страчваюць прытомнасць ці скардзяцца на моцны галаўны боль. А ўсяму прычынай транспарт, які штодзённа выкідвае ў атмасферу тысячы тон шкодных рэчываў.

Хто з нас не назіраў, як «Ікарус», што ад'язджае ад прыпынку, абдаваў густым чорным дымам людзей на тратуары. Тое ж самае можна гаварыць пра сотні тысяч вялікагрузных МАЗаў, КамАЗаў, якія выкідваюць такую колькасць з'едлівага дыму, што можна параўнаць хіба толькі з дымавой заслонай на тактычных вучэннях хімічных войскаў.

У пэўнай меры прадухіленню забруджвання навакольнага асяроддзя ад шкодных выкідаў садзейнічае правядзенне штогадовых аперацый «Чыстае паветра». Сёлета дзяржаўтаінспекцыя Мінска праводзіла гэтыя мерапрыемствы з 1 па 30 чэрвеня.

У ходзе аперацыі аддзелам экалагічнага нагляду ДАІ, аддзяленнямі ДАІ РАУС разам з гарадскім камітэтам па экалогіі, экалагічнай пракуратурай і іншымі зацікаўленымі службамі праверaны многія аўтатранспартныя прадпрыемствы і арганізацыі горада. Праверкі паказалі, што амаль усе буйныя аўтагаспадаркі горада, маючы газааналізатары і дымамеры, выкарыстоўваць іх ад выпадку да выпадку, а часам яны зусім няспраўныя ці не прайшлі гадавую дзяржправерку. Больш таго, працаваць са спецыяльнай тэхнікай інжынерна-тэхнічны састаў проста не ўмее. Вось чаму пры праверцы на лініі да работнікаў Дзяржаўтаінспекцыі чуюцца нараканні з боку вадзіцельскага саставу аб разыходжанні паказанняў газааналізатараў прадпрыемстваў з прыборамі ДАІ. Пры праверцы аказваецца, што іх прыборы не рамантаваліся некалькі гадоў, не гаворачы ўжо пра атрыманне адпаведнага сертыфіката ў Дзяржстандарце.

Усяго праверкамі было ахоплена 125 транспартных прадпрыемстваў і арганізацый горада.

У ходзе аперацыі было праверана 55011 адзінак аўтатранспарту, з якіх 5589 (кожная дзесятая) былі забаронены для эксплуатацыі. 155 кіраўнікоў арганізацый і падраздзяленняў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за выпуск на лінію транспарту, у якім шкодныя выкіды больш чым у 3 разы перавышалі ўстаноўленыя нормы. У гэтых адносінах найбольш парушэнняў было выяўлена ў аўтамашын, якія належалі аўтобусным паркам № 1, 2, 4, 5, 6 ВА «Мінскпасажыраўтатранс», аўтакамбінатам № 1, 3, 4 АВА «Мінскгрузаўтатранс», ЗАТ «Аўтакамбінат № 2», ЗАТ «Аўтакамбінат № 5», АТЭП № 10 «Белмагістральаўтатранс», АП «Аўтатаксісервіс», ААТ «Легаўтатранс», Цэнтральнаму аўтавучэбнаму камбінату.

**Мікалай ВАСІЛЬЕЎ,**
**супрацоўнік аддзела экалагічнага нагляду ДАІ УУС Мінгарвыканкома.**

# Час стаць прыгожымі!

**Мілыя жанчыны! Вам яшчэ не надакучыла ваша прычоска? Вашай увазе прапануюцца цэны некаторых салонаў-цырульняў г. Мінска.**

| Назва | Стрыжка | Укладка | | Завіўка | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | фен | бігудзі | звычайная | спіральная |
| «Александрына» | 52.200 | 64.700 | 44.300 | 120.000 | 250—280 тыс. |
| «Фантазія» | 30.000 | 33.500 | 30.000 | 147.000 | — |
| «Салон» | 23.300 | 70.000 | 40.000 | 88.000 | 170.000 |
| «Люстэрка» | 27.000 | 30.000 | па дамоўл. | 100.000 | — |
| Цэнтр «Міласэрнасць» | 24.500 | 39.000 | 15.500 | 104.000 | 170.000 |
| «Яніна» | 34.000 | да 100.000 | 40.000 і вышэй | 95.000 | 250.000 |

**Яна САВІЦКАЯ.**

# НЕБЯСПЕЧНА БЫЦЬ ДЫРЭКТАРАМ КАМЕРЦЫЙНАЙ ФІРМЫ

**30 ліпеня каля 12 гадзін ночы ў дзяжурную часць Бярэзінскага РАУС патэлефанаваў дырэктар мясцовай ВКФ «Лорд» і паведаміў, што невядомыя ў колькасці недзе каля дзесяці чалавек ломяцца ў дзверы яго кватэры, пагражаючы фізічнай расправай, і патрабуюць грошай.**

Калі бастыёны камерсанта ўсё ж не палі перад націскам нападаўшых, тыя вырашылі падлажыць выбуховае ўстройства. Але нешта не так падключылася... і ў выніку пад'ехаўшым да месца здарэння супрацоўнікам міліцыі прыйшлося браць бандытаў «цёпленькімі» — са шматлікімі асколачнымі раненнямі розных частак цела ў бальніцу былі дастаўлены трое няўдалых «штурмавікоў» (потым адзін з іх памёр), яшчэ адзін быў затрыманы. Астатнім (іх, паводле папярэдніх падлікаў, пяць чалавек) удалося знікнуць. Дырэктар жа «Лорда» застаўся, напэўна, не ў самым лепшым настроі ад такой «перамогі»: могуць жа зноў прыехаць...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### РАДУЕЎ РЫХТУЕ НОВЫЯ ТЭРАКТЫ

Расійскае кіраўніцтва заклікала Яндарбіева заявіць пра свае адносіны да Салмана Радуева і яго тэрарыстычнай дзейнасці. Заклік утрымліваецца ў заяве дзяржкамісіі па ўрэгуляванню чачэнскага канфлікту. У дакуменце падкрэсліваецца, што мірныя пагадненні, падпісаныя ў Назрані, абавязваюць Яндарбіева асудзіць тэрарызм. Радуеў узяў на сябе адказнасць за нядаўнія выбухі на вакзалах у Валгаградзе і Астрахані і папярэдзіў пра тое, што рыхтуе новыя.

### У ПАЧАТКУ ЖНІЎНЯ ШАХЦЁРЫ ПРЫМОР'Я СПЫНЯЦЬ ЗДАБЫЧУ ВУГАЛЮ

З 5 жніўня шахцёры Прымор'я спыняць здабычу і адгрузку вугалю ў знак пратэсту супраць нявыплаты пяцімесячнай запазычанасці па зарплаце. Такое рашэнне было прынята ўчора прадстаўнікамі шахцёрскіх калектываў Прымор'я на пасяджэнні прэзідыума прафкома вугальшчыкаў. Агульная запазычанасць шахцёрам па зарплаце складае 114 мільярдаў рублёў. На сённяшні дзень з Масквы паступіла толькі палова гэтых грошай. У забастоўцы шахцёраў, якая цягнецца больш як два тыдні, бяруць удзел каля 12 тысяч чалавек.

### ЛІДЭРЫ УСХОДНЯЙ І ЦЭНТРАЛЬНАЙ АФРЫКІ АСУДЗІЛІ ПЕРАВАРОТ У БУРУНДЗІ

Палітычныя лідэры Усходняй і Цэнтральнай Афрыкі сустрэліся ў Танзаніі, дзе абмеркавалі ваенны путч у Бурундзі на мінулым тыдні і цяперашнюю сітуацыю ў краіне. Усе ўдзельнікі сустрэчы асудзілі бурундзійскі пераварот, у выніку якога маёр П'ер Буёя прыйшоў да ўлады. Абмяркоўваецца план магчымага ўводу аб'яднаных афрыканскіх вайсковых фарміраванняў у Бурундзі, каб спыніць вайну паміж народнасцямі тутсі і хуту. 30 ліпеня Буёя зрабіў візіты ў Танзанію і Уганду, каб патлумачыць неабходнасць зробленага перавароту.

### ПРАВЕРКА БІЛЕТАЎ ЗАВЯРШЫЛАСЯ ГІБЕЛЛЮ 15-ЦІ ЧАЛАВЕК

Не менш як 15 чалавек загінулі на чыгуначнай станцыі недалёка ад паўднёваафрыканскага Йаганесбурга. Служба бяспекі была вымушана ўчора раніцай уступіць у канфлікт паміж пасажырамі. Праверка білетаў скончылася спрэчкай, а потым і бойкай. Некалькі чалавек загінулі ў бойцы, а некаторыя — скочыўшы з чыгуначнага моста.

### «ВЯЛІКАЯ СЯМЁРКА» КЛІНТАНА НЕ ПАДТРЫМАЛА

Прэзідэнт Клінтан паўтарыў заклік да краін міжнароднага супольніцтва ўвесці эканамічныя санкцыі супраць фірмаў, кампаній і дзяржаў, якія падтрымліваюць гандлёвыя стасункі з краінамі, што маюць дачыненне да тэрарызму. На сустрэчы ў Парыжы ўдзельнікі выступілі супраць гэтага рашэння. Міністры «сямёркі» прынялі сумесны план, які змяшчае 25 палажэнняў, накіраваных на актывізацыю барацьбы з тэрарызмам. Амерыканская прапанова наконт санкцый не была ўключана ў гэты план. Цяпер у ЗША рыхтуецца новы закон, які дазволіць уводзіць эканамічныя санкцыі супраць фірмаў, якія вядуць гандаль з Іранам і Лівіяй.

### ПРАЎДА ПРА «ПРАВДУ»

Прыпынены выпуск газеты «Правда». Газета закрылася на мінулым тыдні з-за канфлікту паміж яе рэдакцыяй і грэчаскімі спонсарамі. Галоўны рэдактар «Правды» Аляксандр Ілын абвінаваціў спонсараў у тым, што яны аказваюць ціск на рэдакцыю з тым, каб прымусіць яе заняць больш умераную пазіцыю. Уладальнікі газеты сцвярджаюць, што прынялі рашэнне закрыць яе з-за стратнасці, а не з-за палітычных рознагалоссяў. Адзін са спонсараў зазначыў, што супрацоўнікі «Правды» больш п'юць, чым працуюць.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Нью-Йоркскі зладзюжка, арыштаваны пры спробе ўкрасці кашалёк з кішэні 94-гадовай матроны, у адчаі. Не таму, што папаўся, а таму, што прадметам яго «палявання» аказалася маці Вінсента Гігантэ, кіраўніка аднаго з самых магутных злачынных кланаў горада. Сам Вінсент чакае суда па абвінавачанню ў забойстве і рэкеце. Яго маці прагульвалася вакол дома ў суправаджэнні свайго другога сына, каталіцкага святара. У кашальку старой было 90 долараў. Кішэнніка таксама чакае суд, але куды больш ён баіцца помсты мафіі.

**Асашыэйтэд Прэс.**

*Згодна з пастановай уладаў кітайскага горада Цяньцзінь, з сямейных пар, якія не зарэгістравалі шлюб, цяпер будзе брацца свайго роду «падатак на грэх». Улады вырашылі накладаць штраф да 1000 юаняў (120 долараў) на мужа і жонку, якія належным чынам не афармілі свае адносіны. Той жа пастановай уводзяцца больш жорсткія правілы дзейнасці розных клубаў знаёмстваў і шлюбных агенцтваў. Яны павінны цяпер патрабаваць ад сваіх кліентаў дазволу на шлюб, які будзе выдавацца мясцовым бюро рэгістрацыі грамадзянскага стану. Шлюбным агенцтвам забаронена шукаць жаніхоў і нявест з ліку іншаземцаў.*

**Рэйтэр**

Дае перуноў адмірал Ціхаакіянскага флоту Уладзімір Кураедаў. З 14 зноў прыбыўшых на флот прызыўнікоў трое аказаліся хворымі на туберкулёз. З гэтай нагоды камандуючы загадаў зрабіць больш жорсткімі патрабаванні да медыцынскага агляду прызыўнікоў. Вось толькі дзе ўзяць здаровых прызыўнікоў? З кожных 10 выпускнікоў школ толькі чатырох можна назваць адносна здаровымі.

**ЭКСТРА-ПРЭС.**

## 36,6°

# ЛІХІ БОЛЬ ЗУБНЫ

**Што рабіць, калі забалеў зуб, а да спецыяліста звярнуцца ў дадзены момант няма магчымасці.**

**С. Сяргееў.**

Можна выкарыстаць, каб суняць боль, сумесь солі, часнаку і цыбулі. З часнаку і цыбулі прыгатуйце кашку, дабаўце ў яе соль (усё ў роўных частках), старанна перамяшайце сумесь, зверху прыкрыйце ватным тампонам.

Дапамагае пазбавіцца ад зубнога болю і прапаліс. Невялікі яго кавалачак змясціце зноў жа ў ачышчаную зубную поласць.

Зняць зубны боль можна, націскаючы на працягу 3-4 хвілін на кропку, размешчаную ў кутку пазногцевай пласцінкі з вонкавага боку ўказальнага пальца.

Ёсць і іншы спосаб. Калі ў вас забалеў зуб злева, няважна, верхні ці ніжні, то прыкладзіце разрэзаную дольку часнаку да кропкі, дзе ля запясця намацваецца пульс на правай руцэ, і зафіксуйце яе лейкапластырам ці бінтам. Зрэзаная частка часнаку павінна быць павернута да скуры. Калі ж баляць зубы справа, часнок фіксуецца да месца, дзе намацваецца пульс на левай руцэ. Спосаб гэты вельмі эфектыўны.

Нямецкія вучоныя прапануюць разам з тым цікавы і нечаканы сродак пры зубным болі — прысяданні, сцвярджаючы, што яны дзейнічаюць неадкладна і больш эфектыўна, чым нават болесуцішальная таблетка.

**«Домашний доктор».**



Згубленае пасведчанне інваліда II групы № 055562 серыі 02, выдадзенае на імя Мікалая Жанавіча ЧЫЖЫКА, лічыць несапраўдным.

## ФУТБОЛ

## ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ

# ЛІДЭРЫ РАНЕЙШЫЯ

Напярэдадні таварыскай сустрэчы нацыянальных зборных Беларусі і Літвы, якая прайшла ўчора на сталічным стадыёне «Дынама», завяршыўся першы круг чэмпіянату Беларусі па футболу.

Матчы 15-га тура асаблівых нечаканасцей не прынеслі. З хакейным лікам 7:1 мазырскі МВКЦ нанёс паражэнне магілёўскім тарпедаўцам. Дарэчы, на гэтай сустрэчы прысутнічаў ісландскі «разведчык» — генеральны менеджэр «Рэк'явіка» Тхарлакур Б'ерсан, на якога гульня гаспадароў і іх сапернікаў у кваліфікацыйным турніры розыгрышу Кубка кубкаў уразіла. Госць шчыра прызнаўся, што ісландцаў чакае цяжкае выпрабаванне.

Другі ўдзельнік еўракубкаў, мінскае «Дынама», сапернікам якога ў кваліфікацыі розыгрышу кубка УЕФА стаў турэцкі «Бешыкташ», таксама закончыў палову дыстанцыі на аптымістычнай ноце, разграміўшы «ўсухую» 4:0 лідскі «Абутнік». Дарэчы, мінчане першую кваліфікацыйную гульню гуляюць 6 жніўня дома. Праўда, хутчэй за ўсё, «дом» іх зноў будзе занесены на паляну ў Маладзечна і тысячы беларускіх аматараў футбола будуць пазбаўлены магчымасці падтрымаць беларусаў, паколькі ў Мінск выбіраецца шмат балельшчыкаў, а вось на перыферыю не надта каму хочацца ехаць.

Шкада, вядома, што адміністрацыя стадыёна «Дынама» занялася рамонтам раздзявалак у разгар футбольнага сезона і ўжо каторы месяц не можа зрабіць «касметычны» рамонт многіх памяшканняў. Павучыліся б у мазыран. Здаецца, і горад па маштабах не раўня сталіцы, аднак адказнасці перад гледачамі і футбалістамі там значна больш. Мазыр у лічаныя дні змог знайсці немалыя грошы і ўкласці іх у рэканструкцыю стадыёна «Юнацтва».

Як відаць, вымушаны будуць праводзіць сваю гульню на перыферыі і дынамаўцы-93. Іх сапернікамі ў Кубку УЕФА, як вядома, сталі футбалісты шведскага «Хельсінгборга». Першая гульня пройдзе 6 жніўня ў Швецыі.

Рэпетыцыяй перад адказнай сустрэчай у Скандынавіі для падначаленых Віктара Сокала стала гульня 15-га тура з брэсцкім «Дынама», якая завяршылася нулявой нічыёй.

Вось вынікі астатніх матчаў:
Атака-Аўра—Тарпеда (Мн) — 2:1
Белшына — Шахцёр — 3:0
Днепр — Лакаматыў-96 — 1:2
Маладзечна — Нёман — 4:0
Нафтан — Ведрыч — 4:0

**Турнірная табліца пасля 15 тураў**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. МВКЦ | 15 | 12 | 1 | 2 | 36-10 | 37 |
| 2. Дынама (Мн) | 15 | 11 | 3 | 1 | 44-12 | 36 |
| 3. Белшына | 15 | 9 | 2 | 4 | 28-17 | 29 |
| 4. Атака-Аўра | 12 | 9 | 1 | 2 | 15-11 | 28 |
| 5. Дынама-93 | 14 | 7 | 4 | 3 | 18-10 | 25 |
| 6. Лакаматыў-96 | 15 | 6 | 6 | 3 | 20-11 | 24 |
| 7. Нафтан | 14 | 7 | 2 | 5 | 22-24 | 23 |
| 8. Маладзечна | 15 | 5 | 4 | 6 | 20-16 | 19 |
| 9. Днепр | 15 | 5 | 3 | 7 | 14-18 | 18 |
| 10. Нёман | 15 | 4 | 4 | 7 | 15-28 | 16 |
| 11. Дынама (Бр) | 15 | 3 | 7 | 5 | 22-18 | 16 |
| 12. Тарпеда (Мн) | 15 | 4 | 3 | 8 | 14-29 | 15 |
| 13. Шахцёр | 14 | 3 | 4 | 7 | 10-25 | 13 |
| 14. Абутнік | 15 | 2 | 4 | 9 | 12-23 | 10 |
| 15. Тарпеда (Мг) | 15 | 2 | 3 | 10 | 17-38 | 9 |
| 16. Ведрыч | 15 | 1 | 3 | 11 | 7-24 | 6 |

Другі круг чэмпіянату Беларусі па футболу ў першай лізе пачнецца 11 жніўня.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ЕЎРАПЕЙСКІЯ КУБКІ

# МАЗЫРАНЕ БУДУЦЬ ГУЛЯЦЬ НА СВАІМ СТАДЫЁНЕ

Прыемную навіну атрымалі нядаўна мазырскія аматары футбола з УЕФА: стадыён «Юнацтва» пасля паўторнай інспекцыі быў прызнаны Еўрапейскім футбольным саюзам прыгодным для правядзення матчаў міжнароднага ўзроўню. А гэта значыць, што палескія футбалісты першую сустрэчу кваліфікацыйнага турніру розыгрышу Кубка кубкаў з ісландскім «Рэйк'явікам» правядуць у сябе дома, а не ў Магілёве, як меркавалася раней. З чым можна і павіншаваць мазыран. Першая перамога, можна сказаць, ужо ёсць. Засталося толькі выйграць у саперніка. І пажадана, па выніку двух матчаў.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ




# Нашы надзеі пакуль растаюць пад націскам сапернікаў

**ВЫНІКІ ДЗЕСЯТАГА ДНЯ АЛІМПІЯДЫ**
**29 ліпеня**
**(разыграна 19 комплектаў медалёў)**

● **НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС**

**Парны разрад. *Жанчыны***
1. Дэн Япін і Цяо Хун (Кітай)
2. Лю Вэй і Цяо Юмпін (Кітай)
3. Пак Хэ Юнг і Ру Чы Хэ (Паўднёвая Карэя)

● **ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА**

**Вагавая катэгорыя да 108 кг**
1. Цімур Таймазаў (Украіна)
2. Сяргей Сырцоў (Расія)
3. Ніку Улад (Румынія)
*4. Уладзімір Емяльянаў (Беларусь)*

● **ПАРУСНЫ СПОРТ**

Месцы ў класе «Містраль» вызначыліся па рэгатах, праведзеных на наступны дзень з-за ўмоў надвор'я

**«Містраль». *Жанчыны***
1. Лань Шань Лі (Ганконг)
2. Барбара Кендал (Новая Зеландыя)
3. Алясандра Сенсіні (Італія)

**«Містраль». *Мужчыны***
1. Нікалаос Каламанакіс (Грэцыя)
2. Карлас Эспінола (Аргенціна)
3. Гал Фрыдман (Ізраіль)

**«Зорны»**
1. Тарбен Грэл і Марсела Ферэйра (Бразілія)
2. Ханс Вален і Бобі Лозе (Швецыя)
3. Колін Бішэл і Дэвід Джайлз (Аўстралія)

**«Фін»**
1. Матэуш Кушнярэвіч (Польшча)
2. Себасцьян Годфруа (Бельгія)
3. Рой Хейнер (Нідэрланды)

● **ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**

**Хадзьба (10 км). *Жанчыны***
1. Алена Нікалаева (Расія)
2. Элізабета Пероне (Італія)
3. Янь Вон (Кітай)
*6. Вольга Кардапольцава (Беларусь)*
*8. Валянціна Цыбульская (Беларусь)*

**Бег (400 м). *Жанчыны***
1. Мары-Жозе Перэк (Францыя)
2. Кэці Фрымен (Аўстралія)
3. Фалілат Агункойя (Нігерыя)

**Бег. 800 м. *Жанчыны*.**
1. Святлана Масцяркова (Расія)
2. Ана Фідэлія Кірот (Куба)
3. Марыя Мутола (Мазамбік)
*7. Наталля Духнова (Беларусь)*

**Дыск. *Жанчыны***
1. Ільке Вылуда (Германія)
2. Наталля Садова (Расія)
3. Эліна Зверава (Беларусь)

**Бег (110 м з/б). *Мужчыны***
1. Ален Джонсан (ЗША)
2. Марк Крыр (ЗША)
3. Фларыяна Швартхоф (Германія)

**Бег 400 м. *Мужчыны***
1. Майкл Джонсан (ЗША)
2. Роджэр Блэк (Вялікабрытанія)
3. Дэйв Камога (Уганда)

**Даўжыня. *Мужчыны***
1. Карл Льюіс (ЗША)
2. Джэймса Бекфорда (Ямайка)
3. Джо Грын (ЗША)
*7. Аляксандр Главацкі (Беларусь)*

**10.000 м. *Мужчыны***
1. Хайле Гебрэселасіе (Эфіопія)
2. Пол Тэргат (Кенія)
3. Салах Хісу (Марока)

● **ГІМНАСТЫКА СПАРТЫЎНАЯ**

**Бервяно. *Жанчыны***
1. Шэнан Мілер (ЗША)
2. Лідзія Падкапаева (Украіна)
3. Джына Гагян (Румынія)

**Вольныя практыкаванні. *Жанчыны***
1. Лілія Падкапаева (Украіна)
2. Сімона Аманар (Румынія)
3. Дамінік Доўз (ЗША)

**Апорны скачок. *Мужчыны***
1. Аляксей Немаў (Расія)
2. Йо Хонг Чул (Паўднёвая Карэя)
*3. Віталь Шчэрба (Беларусь)*
*7. Іван Паўлоўскі (Беларусь)*

**Брусы. *Мужчыны*.**
1. Рустам Шарыпаў (Украіна)
2. Джэйр Лінч (ЗША)
*3. Віталь Шчэрба (Беларусь)*

**Перакладзіна. *Мужчыны***
1. Андрэас Векер (Германія)
2. Красімір Дунеў (Балгарыя)
*3. Аляксей Немаў (Расія), Фань Бінь (Кітай) і Віталь Шчэрба (Беларусь)*

● **СКАЧКІ Ў ВАДУ**

**Трамплін. *Мужчыны***
1. Ні Сюн (Кітай)
2. Юй Чжочэн (Кітай)
3. Марк Ленці (ЗША)
*10. Андрэй Семянюк (Беларусь)*

**ВЫНІКІ АДЗІНАЦЦАТАГА ДНЯ АЛІМПІЯДЫ**
**30 ліпеня**
**(разыграна 7 комплектаў медалёў)**

● **ПАРУСНЫ СПОРТ**

**Клас «Тарнада»**
1. Фернанда Леан і Хасе-Луіс Бальестэр (Іспанія)
2. Міч Бут і Эндру Ландэнбергер (Аўстралія)
3. Ларс Грэл і Кіко Пелікана (Бразілія)
*14. Віктар Буданцаў і Сяргей Краўцоў (Беларусь)*

**Маўнцінбайк. *Жанчыны***
1. Паола Пеца (Італія)
2. Элісан Сайдэр (Канада)
3. Сьюзен дэ Матэі (ЗША)

***Мужчыны***
1. Барт Брэнт'енс (Нідэрланды)
2. Томас Фрышкнехт (Швейцарыя)
3. Мігель Марцінес (Францыя)

● **ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА**

**Вагавая катэгорыя звыш 108 кг.**
1. Андрэй Чамеркін (Расія)
2. Роні Велер (Германія)
3. Стэфан Боцеў (Аўстралія)
*7. Аляксандр Курловіч (Беларусь)*

● **НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС**

**Парны разрад. *Мужчыны***
1. Лю Голін і Кун Лінхуэй (Кітай)
2. Ван Тао і Лу Лінь (Кітай)
3. Йрр Нам Кю і Лі Чул Сеунг (Паўднёвая Карэя)

● **СУЧАСНАЕ ПЯЦІБОР'Е**
1. Аляксандр Парыгін (Казахстан)
2. Эдуард Зяноўка (Расія)
3. Янаш Марцінек (Венгрыя)

● **САФТБОЛ**
1. ЗША
2. Кітай
3. Аўстралія

*Учора ў Атланце праходзілі спаборніцтвы ў 17 відах і было разыграна 18 камплектаў медалёў.*

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.21 | 21.09 | 15.48 |
| Віцебск – | 5.06 | 21.05 | 15.59 |
| Магілёў – | 5.11 | 20.58 | 15.47 |
| Гомель – | 5.16 | 20.47 | 15.31 |
| Гродна – | 5.39 | 21.21 | 15.48 |
| Брэст – | 5.45 | 21.17 | 15.32 |

**МЕСЯЦ**

**Поўня 30 ліпеня.**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр.** Макрыны, Серафіма, Рамана, Паісія, Стэфана

**К.** Альфонса Лігуоры–біскупа і доктара Касцёла

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Раніцай месцамі туман. Тэмпература паветра ў Віцебску, Гродне і Мінску — 20—22, Гомелі і Магілёве — 21—23, Брэсце — 22—24 градусы.

У наступныя двое сутак: 2 жніўня пераважна без ападкаў; 3-га ўначы па паўночнаму захаду, а ўдзень і ў цэнтральных раёнах — кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература 2-га ўначы 10—15, удзень — 23—28, 3-га ўначы 12—17, удзень — 20—25, па паўднёваму ўсходу да 28 градусаў цяпла.

## НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ Ў ЖНІЎНІ

**Для ўсіх знакаў гараскопа ў бягучым месяцы стануць неспрыяльнымі 3, 7, 13, 17, 22 і 28 жніўня.**

Так, 3 жніўня небяспечнае негатыўнымі ўздзеяннямі, падманамі, атручэннямі; 7-га нельга гневацца, стрыгчы пазногці, падвяргацца хірургічным аперацыям; 13-га — дзень ілюзій, падманаў; 17-га — не спяшайцеся з рашэннямі, будзьце ўважлівымі пры знаёмстве з новымі людзьмі; 22-га магчымы дрэнныя сны, падманы і атручэнні, 28-га — спакушэнне плоці, карысна абараняць справядлівасць.




# ЗРУЧНЫ ПЫЛАСОС

Каб у салоне заўсёды было чыста, трэба часта вымятаць пясок і рознае смецце.

Для гэтага вельмі зручна карыстацца эжэктарным пыласосам, канструкцыя якога паказана на малюнках.

Пыласос уяўляе з сябе эжэктар, надзеты на выхлапную трубу. Каб пасадка была шчыльнай, праверце знадворку дыяметр выхлапной трубы свайго аўтамабіля і, пры неабходнасці, скарэкціруйце ўнутраны дыяметр трубы 1. Добра будзе, калі на ёй зрабіць прорэзі і зацiскаць хамутом, паклаўшы пад яго пракладку.

Дэталі можна злучыць паміж сабой зваркай ці вінтамі. Пры зборцы трэба вельмі строга вытрымаць установачны памер 15 мм паміж соплaмі і іх размеркаванне на адной восі. На штуцэры замацуйце шланг, які для гэтага падыходзіць, а ўваходны канец яго аснасціце наканечнікам, як на звычайным пыласосе.

Добрае разрэджванне пыласос дае пры сярэдніх абаротах рухавіка.




*НА МАЛЮНКУ: 1 — трубка-насадка; 2 — малое сопла; 3 — вялікае сопла; 4 — штуцэр; 5 — месца зваркі.*

# ПАРАДЫ МАЙСТРОЎ

● Вельмі забруджаны маслам і пылам рухавік аўтамабіля ці матацыкла ўдаецца хутка вымыць растворам пральнага парашку (паўпачка на 10 літраў гарачай вады), падаючы яго садовым апырсквальнікам пругкім струменем. Пасля апалосквання халоднай вадой рухавік мае вельмі добры выгляд.

● Каб засцерагчы звонку выхлапныя трубы і глушыцелі аўтамабіля ад карозіі, ачысціце іх ад бруду і рыхлай іржы і пакрыйце тонкім слоем графітавай змазкі. Калі яна абгарыць, дэталі набудуць вельмі моцную антыкаразійную плёнку чорнага колеру.

● Калі на лясной дарозе аўтамабіль засеў у глыбокай лужыне, адзін аўтааматар зрабіў наступнае. Наперадзе ў некалькіх метрах расло дрэва, але не было лябёдкі. Ён прывязаў да яго і да аўтамабіля капронавы буксіровачны фал, пасярэдзіне зрабіў пятлю. У яе ўставіў палку даўжынёй 1,5 метра і стаў круціць яе, адначасова адцягваючы скручаны фал, каб ён зівваўся, але не перакручваўся. Такім чынам удалося выцягнуць машыну на сухое месца.

● Колавыя нішы ў аўтамабілях перыядычна даводзіцца пакрываць масцікай, бо яна пашкоджваецца каменем і пяском. Каб антыкаразійнае пакрыццё стала больш трывалым, яго трэба арміраваць шклотканінай, капронавым цюлем. Робяць гэта так. Чыстую паверхню нішы пакрываюць бітумнай ці якой-небудзь іншай масцікай і наклейваюць на яе невялікія (20х20 см) кавалкі тканіны так, каб на іх не было складак, а зверху наносяць яшчэ адзін слой масцікі. У выніку атрымліваецца вельмі моцнае пакрыццё, якое добра трымаецца, калі аўтамабілям карыстаюцца круглы год.

● Нярэдка аўтааматар, які купіў фарбу ў запас, не ведае, як яе захаваць. Між тым, дастаткова выразаць з масла-ўстойлівай гумы круг па ўнутранаму дыяметру банкі, пакласці яго на паверхню фарбы і шчыльна закрыць накрыўкай. Фарба будзе стаяць доўга і ніякай скарынкай не пакрыецца.

● Калі ў вас няма прыдатнага матэрыялу для вырабу пракладак, скарыстайце звычайную бяросту. Яна ўстараніць любую цечу.

● Дзякуючы прыклеенай на задняе шкло аўтамабіля празрыстай плёнцы шкло не будзе пацець, што забяспечыць добрую бачнасць дарогі.

● Выхавайце ў сябе звычку пры тармажэнні кідаць позірк у люстэрка задняга віду. Гэта засцеражэ вас ад удару ззаду. Не сядзіце на «хвасце» аўтамабіля, які рухаецца наперадзе. Захоўвайце дастатковую дыстанцыю, якая і на сухой дарозе павінна быць у метрах не менш, чым палова скорасці, паказанай у кіламетрах у гадзіну.

**Т**АТУІРОЎКА. Дзе яна з'явілася ўпершыню — дакладна невядома па сённяшні дзень. Бясспрэчна толькі адно — гэтым займаліся здаўна.

**Найбольш распаўсюджаны звычай наносіць татуіроўкі быў у індзейскіх плямёнах. У Старажытным Егіпце татуіроўка лічылася адметнасцю прадстаўнікоў вышэйшай касты — жрацоў. У Еўропе яна з'явілася з развіццём мараплавання. Вяртаючыся з далёкіх падарожжаў, маракі горда дэманстравалі незвычайныя наколкі ў шынках і тавернах (гавораць, небезвядомы Кук, наведаўшы Палінезію, таксама выбіў на сваіх грудзях арла). Відаць таму да гэтага часу славяцца майстрамі нацельнага жывапісу менавіта гандлёвыя гарады, марскія краіны.**

**Татуіроўку рабілі і хрысціяне. Каб прадухіліць пераход у іншую рэлігію, многім з іх выбівалі на целе крыжы.**

**У савецкі перыяд татуіроўкі, як правіла, лічылі «прывілеяй» тых, хто ці адседзеў свой турэмны тэрмін, ці «рыхтаваўся» да гэтага.**

**Але ідуць гады, мяняюцца і норавы. Татуіроўкі ўжо не ўспрымаюцца людзьмі як нешта незвычайнае. Мала таго, аўдыторыя прыхільнікаў нацельнага жывапісу вельмі пашырылася. А калі з'явіўся попыт, то, адпаведна, не засталося ў баку і прапанаванне. Мае суразмоўцы, Сяргей і Віталь, — адны з тых, хто задавальняе гэты попыт.**

# Рамяства новага часу: НАЦЕЛЬНЫ ЖЫВАПІС

## Бейсбольная біта членам «прафсаюза»

Заняліся татуіроўкамі хлопцы яшчэ ў 1985 годзе. Спачатку рабілі іх сябрам, знаёмым... Паступова набілі руку, і вось тры гады таму ўзяліся за справу прафесіянальна. Сталі даваць аб'явы ў газетах. Ніша аказалася незанятай. На Беларусі па-ранейшаму няма ніводнага афіцыйна зарэгістраванага татуіровачнага салона. Ды і ў краінах СНД такі салон існуе толькі ў Расіі. Адчынены ён быў у Маскве літаральна сёлета.

Так што канкурэнцыі Сяргей і Віталь не баяцца, хоць такой дзейнасцю ў рэспубліцы займаюцца ўсё ж такі не адны. Асабліва шмат умельцаў з'явілася ў апошні час. Заяўляюць аб сабе яны таксама праз аб'явы. І хоць ні ў які прафсаюз прадстаўнікі рамяства, якое зараджаецца, пакуль не аб'ядналіся, адзін з адным яны часам сустракаюцца.

— Трэба ж з калегамі бліжэй пазнаёміцца, — тлумачыць Сяргей. — Знаходзім, бывае, аб'явы, дамаўляемся аб сустрэчах, прыязджаем куды-небудзь на кватэру. Пагутарыўшы некалькі хвілін з хлопцамі, разумеем, што справу маем з прафанамі. Праз тыдзень, праўда, тэлефануем ім зноў. З-за цікавасці. Фінал, як правіла, адзін і той жа. Бабулька, якая звычайна бярэ трубку, тлумачыць: маўляў, фірма з кватэры з'ехала ў невядомым накірунку, таму тэлефанаваць сюды больш не трэба. Адначасова гаспадыня скардзіцца, што ад наведвальнікаў яе былых кватэранаймальнікаў ратунку няма. Быў нават выпадак, калі раззлаваныя няякаснай работай кліенты шукалі сваіх «дабрадзеяў» з бейсбольнай бітай у руках.

За Сяргеем з Віталем, як заўважылі хлопцы, «захопленыя паклоннікі іх таленту» з бітамі пакуль не ганяюцца. Наадварот, з ананасамі і бананамі ў госці наведваюцца, са святамі віншуюць.

## Кайф памерам з пачак цыгарэт

Для таго, каб па-майстэрску набіць татуіроўку, аказваецца, не трэба мець сем пядзяў лоб ці нейкую спецыяльную адукацыю. Грамадзянскія спецыяльнасці маіх суразмоўцаў больш чым празаічныя. Віталь закончыў палітэх, з дзяцінства любіў маляваць. Заняўся татуіроўкай яшчэ ў войску. Сяргей наогул... інжынер-тэхнолаг па дрэваапрацоўцы. Але добра валодае дызайнам. Вытокі ж майстэрства, на іх погляд, ляжаць у іншым — у захапленні справай. Без яго далёка не паедзеш.

Сяджу ў пакоі і разглядаю сцены, завешаныя фотаздымкамі розных ювелірна размаляваных асоб. Тут жа сушыльная шафа, дэзрастворы, пальчаткі. Віталь падае каталогі з выявамі розных будаў, мадон, дэманаў, жывёл. Цікаўлюся: няўжо ўсё гэта набіваеце?

— Калі кліент выбраў, то так, — адказвае ён за дваіх.

Але прыходзяць і пераборлівыя наведвальнікі. Замежныя каталогі іх не цікавяць. Малюнкі ў такім разе распрацоўваюцца індывідуальна. І абавязкова сумесна. Калі варыянт каляровы, то разам абмяркоўваюцца і фарбы, якія выкарыстоўваюцца. Дарэчы, туш хлопцы заказваюць за мяжой, каб пазбегнуць непажаданых вынікаў. Айчынная не прызначана для работы са скурай. Пасля таго як татуіроўка зроблена, удакладняюць дэталі. Пры нанясенні татуіроўкі ўлічваецца таксама яе «прывязка» да рэльефу мышцаў.

Сам працэс нанясення татуіроўкі працаёмкі. Невялікі, з пачак цыгарэт, малюнак займае тры і болей гадзін. Больш буйны, бывае, адбірае і цэлы тыдзень. Можна, зразумела, рабіць хутчэй, але гэта ўжо канвеер.

На Захадзе ў татуіровачных салонах з'явіліся спецыяльныя машыны, якія хутка выконваюць за майстроў асноўную работу. Але, на думку маіх суразмоўцаў, пераход на такую канкрэтную камерцыйную аснову толькі знішчае творчы падыход. Прыходзілі да Сяргея і Віталя людзі, якія рабілі татуіроўкі ў Фінляндыі, Швецыі, Галандыі, Чэхіі, Польшчы. У працэнтаў шасцідзесяці з іх малюнкі былі выкананы няякасна.

Так што самым лепшым сродкам у гэтай справе застаецца старэнькая электрычная машынка. Ёю і карыстаюцца «беларускія ўмельцы».

— Працэдура балючая? — пытаюся.

— Ды не вельмі, — адказвае Сяргей. — Старажытныя татуіроўкі наогул выпальваннем наносіліся. Некаторыя — рубцамі: разразалася скура і пасыпалася фарбавальным рэчывам.

## Павучок для каханага

Свайго першага кліента, які адгукнуўся на аб'яву, Сяргей з Віталем памятаюць па сённяшні дзень. Ім быў «фанат» мінскага «Дынама». Да гэтага часу, напэўна, ходзіць з эмблемай клуба на целе. Затым прыйшоў ахоўнік амерыканскага пасольства. А далей пайшло-паехала. Лік наведвальнікаў ужо ідзе на сотні.

— Пабывалі ў нас прадстаўнікі практычна ўсіх прафесій: рабочыя, бізнесмены, дызайнеры, мастакі... Зачасцілі ў апошні час ваеннаслужачыя. Перш за ўсё гэта датычыцца спецназаўцаў, дэсантнікаў, разведчыкаў і «пагранцоў», — пералічвае Сяргей. — У поўным саставе прайшлі нашу майстэрню работнікі некалькіх мінскіх моргаў. Некалькі разоў прыходзілі сатаністы. Зрабіў аднаму з іх патрабуемую крыптаграму, а пасля месяц сам не свой хадзіў. Усё з рук валілася. Цяпер такіх кліентаў стараюся пазбягаць.

Часта звяртаюцца сямейныя пары. Робяць ім парныя татуіроўкі.

З тымі наведвальнікамі, якім яшчэ не споўнілася 18 гадоў, размова кароткая — ад варот паварот. Пераважная большасць кліентаў — людзі ва ўзросце ад 20 да 35 гадоў. Прыходзіў нядаўна да майстроў нацельнага жывапісу і самы стары іх наведвальнік. Сваю першую татуіроўку ён вырашыў зрабіць у 62 гады.

А вось каго больш прыходзіць — мужчын ці жанчын? Аказваецца, раней іх суадносіны былі прыблізна 60 да 40 працэнтаў адпаведна. Сёння, як ні дзіўна, яны выраўнаваліся. Мужчыны, як правіла, заказваюць грозных ільвоў, тыграў, мядзведзяў, ваўкоў, драконаў. Робяць татуіроўкі ў асноўным на грудзях, плячы, лапатцы. Часам на назе. У жанчын на першым месцы ў тэматыцы пераважаюць расліны: кветачкі, ліяны ўсякія. Любяць яны і насякомых (матылькоў, скарпіёнаў, павучкоў), часта заказваюць дыснееўскіх персанажаў. А вось вампіраў і драконаў не паважаюць. Пры выбары часткі цела, дзе размясціць татуіроўку, цудоўны пол асабліва не камплексуе. Свае незвычайныя рашэнні тлумачыць проста: татуіроўку, маўляў, раблю не для таго, каб дэманстраваць яе ўсім на пляжы. Яна для мяне і каханага чалавека.

Наогул, як заўважылі Сяргей з Віталем, з жанчынамі працаваць цікавей, чым з мужчынамі. Яны непрадказальныя. Прыходзіць, напрыклад, дзяўчына, каб зрабіць татуіроўку, і раптам даведваецца, што тут ёй могуць выканаць татуаж твару (нанесці стрэлкі, лінію броваў, контур вуснаў). Не трэба, кажа, татуіроўку — твар «рабіць» буду.

Выконваюць хлопцы заказы і па другому, і па трэцяму разу. Хтосьці просіць прыхарашыць татуіроўку, якая ўжо ёсць, хтосьці накласці зверху яе новую. Але ўсё ж такі, на думку Сяргея, чалавек, які паставіў на сабе хоць адну кропку, рана ці позна захоча гэта паўтарыць. Татуіроўка — як наркотык.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

**АД АЎТАРА. Гэты артыкул — не заклік да чытачоў неадкладна «пасадзіць» сабе на якую-небудзь частку цела татуіроўку. Трэба памятаць, што мода — рэч пераменлівая. А малюнкі гэтыя — на ўсё жыццё. І выводзіць іх вельмі непрыемна. Дарэчы, у размове са мной героі публікацыі адразу папярэдзілі, што гэтым яны не займаюцца.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 1 жніўня

**Беларускае тэлебачанне**

**9.00** «Адзінка з «падманам». Маст. фільм. **10.15** «Слон і Пеначка». Мультфільм. **10.25** Каралеўскае паляванне. **11.05** «Белвідэацэнтр» прадстаўляе: «Карагод». Дак. фільм. **11.30—12.55** «Белы веласіпед». Маст. фільм (Турцыя). **14.55** Праграма перадач. **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Тэлесерыял. **15.40** «Новае адзенне караля», «Скарб ката Леапольда». Мультфільмы. **16.05** «Сямён Дрэчын — зорка беларускага балета». Перадача 3-я. **16.25** Параграф. Аказанне дапамогі беспрацоўным у аддзяленні занятасці насельніцтва Савецкага раёна. **16.55** Арсенал. Праграма для вайскоўцаў. **17.25** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.55** Музычны антракт. **18.05** «Дарогі рук тваіх». Тэленарыс. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». **20.05** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Оскар». Тэлегульня. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Спартыўны тэлекур'ер. **22.10** Музычны антракт. **22.20** «Каралева Марго». 18-я серыя. **23.20** «Крок». Міжнародны маладзёжны лагер «Бе-Ла-Русь». **23.50** Мотаспорт. Супербайк. Чэмпіянат свету-96. **0.15** Навіны.

**ГРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.15** Навіны. **8.15** «Новая ахвяра». **9.05** Алімпійскія гульні ў Атланце. **9.50** «Клуб падарожнікаў». **10.35** Смак. **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам свету». **11.55** Алімпійскія гульні ў Атланце. Тэніс настольны. Жанчыны. Фінал. Бокс 1/4 фіналу. **14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца». **14.40** Цін-Тонік. **15.05** «Сястрыца Алёнка і брацік Іванка». Мультфільм. **15.20** «Элен і хлопцы». **15.50** Алімпійскія гульні ў Атланце: падзеі дня. **17.20** «Новая ахвяра». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** Лато-Мільён. **19.00** Дзіўныя гісторыі ў праграме «Мая сям'я». **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** Рычард Бартан у гістарычным фільме «Тысяча дзён каралевы Ганны». **23.25** Алімпійскія гульні ў Атланце. Бадмінтон. Мужчыны. Фінал. Лёгкая атлетыка.

**«Расія»**

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 0.40** Весткі. **9.20** Алімпіяда-96. Вольная барацьба. **9.55** Тавары — поштай. **10.20** Дзелавы аўтограф. **10.25** Навінкі ад ТВ медыа. **10.30—12.50** Алімпіяда-96. Лёгкая атлетыка. **16.20** Музыка ўсіх пакаленняў. **16.35** «Чэленджэрс». Серыял. **17.05** Ваш партнёр. «Дамашні лекар». **17.15** Надзвычайны канал. **17.40** Цёмная для С. Кавалёва. **17.55** Нічога, акрамя... **18.10** Алімпіяда-96. Лёгкая атлетыка. **19.35** Алімпійскі кур'ер. **20.05** «Санта-Барбара». **21.00** Надвор'е на заўтра. **21.05** Ад фортэ да піяна. **21.35** «Субота, нядзеля, панядзелак». Маст. фільм. 3-я серыя. **22.40—0.55** Алімпіяда-96. Баскетбол. Жанчыны. Бадмінтон.



**«Санкт-Пецярбург»**

**15.00** «Першае каханне». Серыял. **15.50, 20.40** Тэлеслужба бяспекі. **16.05** Дэтэктыў на тэлеэкране. «Шпік». 3-я серыя. **16.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ. **17.05** «Філасофія па Філу». Серыял. **17.30** Стыль жыцця. **17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.10** Дак. фільм. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** Дэтэктыў на тэлеэкране. «Шпік». 3-я серыя. **22.15—23.23** «Маклер». Маст. фільм (Узбекістан).

**«Расійскія універсітэты»**

**10.30** СІВ. Навіны. **10.40** Нямецкая мова для дзяцей. **11.00** «Ну, пачакай!» Выпуск 7-ы. **11.10** «Алімпійскі характар». Тэлевізійны дак. фільм аб алімпійскай чэмпіёнцы па бегу Т. Казанкінай. **11.30** У рабочы поўдзень. **12.00** «Пяць хвілін». **12.05** Камп'ютэрны веснік. **12.30** Чалавек у рыначнай эканоміцы. **13.00** Тайна Расіі. Перадача прысвечана зямлі Ніжагародскай і Краснадарскай. **13.25** СІВ. Навіны. **13.30** «Жыццё Кліма Самгіна». 13-я серыя. **14.45** Тайна прыгажосці. **15.00** Алімпіяда-96. Скачкі ў ваду. 3 м. Жанчыны. **16.00** Музычныя навіны. **16.15** «Муззон». **16.45** СІВ. Навіны.

**НТБ**

**17.00** Дак. фільм «Дзікая прырода: барацьба за жыццё». 8-я серыя. **17.30** Жаночыя гісторыі «Каханне і нянавісць». 2-я серыя. **18.00** «Сёння». **18.35** Дак. фільм «Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі». 14-я серыя. **18.55** Свет кіно. Луі дэ Фюнэс у фільме «Скупы» (Францыя). **21.00** «Сёння». **21.35** Алімпійская гадзіна з Рускага дома. **22.30** Часінка. **23.00** «Сёння». **23.20** Дак. фільм «Рускі фронт».

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

**Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.**

**Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.**

**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**
**Тыраж 91852. Індэкс 63850.**
**Зак. № 4245.**
**Выходзіць 250 разоў на год.**
**Нумар падпісаны ў 20.15.**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**